# ЗЬМЕСТ



1-я Дзяржаўная друкарня. Зак. № 2780. Галоўлітбел № 25854. У ліку 2.500.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.



III год выданьня Ліпень 1927 г. № 7

## Уплыў сельска-гаспадарчага крэдыту на перабудову сельскай гаспадаркі.

Толкі 4 гады таму назад, як утварыўся ў БССР спэцыяльны крэдытны інстытут для абслугоўваньня сельскай гаспадаркі, вядомы пад назвай—сыстэма сел.-гасп. крэдыту, але відавочна ўжо можна заўважыць яго карысную дзейнасьць.

Значная была роля сыстэмы с.-г. крэдыту ў той час, калі сельская гаспадарка адбудоўвалася, калі трэба было аднаўляць зруйнаваныя за часы войн асноўныя капіталы сельскай гаспадаркі, але зараз, калі сялянская гаспадарка ідзе шпаркім крокам да новых форм землякарыстаньня і наогул да новых форм гаспадараньня, роля сыстэмы сел.-гаспарчага крэдыту яшчэ больш павялічваецца.

Сыстэма с.-г. крэдыту пабудована на так званай *дзяржаўна-каапэрацыйнай падставе.* Частка зьвеньняў гэтай сыстэмы (вышэйшыя) зьяўляецца дзяржаўнымі, а частка (ніжэйшыя)—каапэрацыйнымі. У нас у БССР структура сыстэмы с.-г. крэдыту мае такі выгляд: *Белсельбанк, 7 Акрсельбанкаў* і 182 *сел.-гасп. крэдытных таварыстваў.*

У такім прынцыпе пабудаваньня сыстэмы с.-г. крэдыту злучаецца кіруючая роля дзяржавы з ініцыятывай і самадзейнасьцю сялянскіх мас. Дзяржаўныя сродкі, якія ўліваюцца праз гэтую сыстэму ў сельскую гаспадарку, выклікаюць прыток сродкаў самога сялянства і ўсе гэтыя сродкі далей арганізаваным плянавым парадкам накіроўваюцца на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. *Сыстэма с.-г. крэдыту—гэта адзін з тых рычагоў, які павінен перасунуць нашу сельскую гаспадарку на новыя рэйкі,* на рэйкі большай таварнасьці, і спрыяць каапэрыраваньню збытавых і вытворчых процэсаў і поўнай колектывізацыі сялянскай гаспадаркі. З узмацненьнем рэсурсаў сыстэмы с.-г. крэдыту, а яны растуць штогодна і зараз дасягаюць ужо 20 міл. руб.

Уплыў крэдыту на сельскую гаспадарку павялічваецца і ён ужо пачынае рабіцца тым чулым рычагом, ад якога можа залежаць цалкам разьвіцьцё тае альбо іншае галіны сельскай гаспадаркі.

Сярод трох галоўных экономічных рычагоў, праз якія робіцца ўплыў на сельскую гаспадарку, (падатак, рынак і крэдыт), у сучасны момант рашучую ролю адыгрываюць крэдыт і рынак, бо с.-г. падатак, дзякуючы яго адносна невялікім разьмерам, вялікага значэньня не адыгрывае. Сел.-гасп. каапэрацыя-ж—гэты асноўны арганізатар сел.-гасп. рынку,—яшчэ дагэтуль арганізацыйна і фінансава ў нас ня досыць узмацнілася і таму роля сыстэмы с.-г. крэдыту набывае яшчэ большае значэньне.

Адсюль, як вынік, трэба ўсім земработнікам і грамадзкім арганізацыям, якія працуюць на вёсцы, прыняць больш актыўны ўдзел ў працы сыстэмы с.-г. крэдыту, каб забясьпечыць яе правільны кіру-

нак. Кожная хіба і памылка можа вельмі шкодна адбіцца на разьвіцьці сельскай гаспадаркі. У залежнасьці ад таго, як і ў якім разьмеры забясьпечана пазычковымі капіталамі тае альбо іншае галіны сельскай гаспадаркі, можна спадзявацца на больш ці менш шырокае яе разьвіцьцё.

У працягу трох мінулых гадоў сродкі па с.-г. крэдыту пераважна накіроўваліся на задавальненьне патрэб сельскай гаспадаркі ў рабочай жывёле, будынках і сел.-гас. інвэнтары. Так за 1923-1926 г. па пляну Белсельбанку было накіравана:

| | | |
|---|---|---|
| I. | На папаўненьне асноўных капіталаў і фінансіраваньне асноўных затрат сялянскай гаспадаркі (коні, с.-г. інвэнтар, будынкі, земляўпарадкаваньне) . . . . . . | 7037 т. р. |
| II. | На куплю насеньня траў, ільну і збожжа (вытворчыя процэсы) . . . . . . | 4476 „ „ |
| III. | На сельска-гаспадарчую прамысловасьць . | 1469 „ „ |
| IV. | На промыслы сел.-гасп. значэньня. . . | 377 „ „ |
| V. | На ўзмацненьне фінансавага становішча установ сыстэмы с.-г. крэдыту . . . . | 1385 „ „ |
| VI. | Розныя іншыя патрэбы (пераважна савецкія гаспадаркі) . . . . . . . | 1925 „ „ |
| | Усяго . | 16.669 „ „ |

Крэдыты, якія адпушчаны па разьдзелу V, у значнай частцы выкарыстаны ўстановамі с.-г. крэдыту на фінансаваньне асноўных затрат сялянскіх гаспадарак. Такім чынам, больш 50 проц. усіх сродкаў сыстэмы с.-г. крэдыту пайшло на адбудоўчыя патрэбы, але ня малая частка сродкаў (каля 30 проц.) была накіравана і на іншыя патрэбы, як, напрыклад, на травасеў, сел-гас. прымысловасьць і інш.

Сёлета па пляну сыстэмы с.-г. крэдыту зроблен рашучы пад'ём у напрамку с.-г. крэдыту. Па пляну крэдытавай сыстэмы на 1926/27 г. прадбачана накіраваць:

| | | |
|---|---|---|
| I. | На асноўныя затраты сялянскай гаспадаркі . | 3.340 т. р. |
| II. | На вытворчыя патрэбы сельскай гаспадаркі . | 1.740 „ „ |
| III. | На с.-г. прамысловасьць . . . . . . | 875 „ „ |
| IV. | На с.-г. промыслы . . . . . . | 370 „ „ |
| V. | На ўзмацненьне установ сыстэмы . . . | 800 „ „ |
| VI. | На розныя патрэбы . . . . . . | 725 „ „ |
| | Усяго . | 7.850 т. р. |

Адначасна трэба заўважыць, што ў першыя годы дзейнасьці сыстэмы с.-г, крэдыту лік доўгатэрміновых крэдытаў быў вельмі нязначны (каля 20 проц. ад усёй сумы). За апошнія два гады зроблена досыць выразная перагрупоўка крэдытаў у бок павялічэньня сумы доўгатэрміновых крэдытаў, якія зараз дасягаюць ужо блізка 50 проц. да ўсяго мэтавага крэдытнага звароту.

Павялічэньне доўгатэрміновых крэдытаў мае асабліва важнае значэньне для маламоцных гаспадарак, у якіх тэрмін звароту пазычковых сродкаў звычайна ідзе павольным крокам.

Соцыяльны склад сялянскіх гаспадарак, якія абслугоўваюцца с.-г. крэдытам, па даных Белсельбанку,—на 95 проц. бядняцка-серадняцкі. Гэта ставіць перад сыстэмай с.-г. крэдыту задачы бязупынна вышукваць усё новыя і новыя крыніцы павялічэньня фонду доўгатэрміновых крэдытаў, без якіх немагчыма ня толькі перабудаваць, але і адбудаваць маламоцныя гаспадаркі.

Побач з гэтым стаіць на чарзе пытаньне павялічыць разьмер сродкаў, якія можна скарыстаць на перабудову (рэконструкцыю) сельскай гаспадаркі, але ўжо за сродкі самага сялянства, бо мы бачым што да гэтага часу блізка на 20 міл. руб. крэдфонду, які мы ўжо маем у звароце сыстэмы с.-г. крэдыту, сродкі сялянства займаюць каля 500 т. руб., ці $2^1/_2$ проц., а рэшта—гэта сродкі дзяржаўнага бюджэту.

Між тым, у даваенны час, у крэдытнай каапэрацыі амаль на тую-ж суму крэдфонду, сродкі сялянства (уклады) займалі да 12 міл. руб., а дзяржаўныя пазычкі складалі толькі каля 3 міл. руб.

Бяз шырокага прыцягненьня ў далейшым у с.-г. крэдытныя т-вы сродкаў самага сялянства, разгарнуць шырока крэдытную дапамогу сельскай гаспадарцы ня прыдзецца.

Але гэта ужо, як вядома, залежыць ад здольнасьці, ініцыятывы і ад энэргіі грамадзкіх сіл вёскі і, зразумела, у першую чаргу ад тых, якія працуюць у галіне сельскай гаспадаркі. Спачатку трэба паставіць на належную вышыню справу зьбіраньня (концэнтрацыі) вольных сродкаў сялянскіх гаспадарак у мясцовым крэдытным с.-г. т-ве. А ад гэтага у будучыне будзе залежаць у значнай меры разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і тэмп уздыму на новы больш высокі ўзровень.

**Е. Трахімаў.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Якую канюшыну пакідаць на насеньне.

Вялікі недахоп канюшыннага насеньня, яго дарагавізна і жаданьне пашыраць пасевы канюшыны высоўваюць на чаргу пытаньне аб тым, які сорт канюшыны належыць пакідаць у сельскай гаспадарцы Беларусі.

Справа ў тым, што большая частка канюшыннага насеньня к нам прывозіцца з розных мясцовасьцяй, якія розьняцца ад нашай краіны сваімі прыроднымі умовамі (глеба, клімат і інш.). Зразумела, што гэтыя умовы ўтварылі ў той ці іншай краіне свой тып канюшыны. Так, усякаму селяніну вядома, што ёсьць позьнесьпелая канюшына і раньняя. Выдзяляецца таксама і сярэднясьпелая канюшына. Вось вядомая рэч, што такая путаніна і перамешваньне сартоў чырвонай канюшыны часта прыводзяць селяніна да страты тым. што якая-небудзь непадыходзячая да нашых умоў канюшына гіне і не дае ніякіх ураджаяў.

Пакуль у нас няма сваіх вынікаў сорта-спрабаваньня рознай чырвонай канюшыны, дык нам трэба карыстацца вынікамі станцый, раёны якіх ня вельмі адрозьніваюцца па сваіх умовах ад нашых беларускіх.

Для беларускага селяніна на гэта пытаньне могуць даць адказ даныя Маскоўскай губэрні.

(Матачны выхавальнік кармовых траў „Узкое“).

| Пахаджэньне насеньня | Ураджай у кгр. на гэктар | | | | Сума ўраджаю за 2 годы карыстаньня ў кгр. на гэкт. | Адносная ўраджайнасьць у %% за 2 г. карыстаньня |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-ы год карыстаньня | У %% 1-ы г. пакарыстаньня | 2-гі год карыстаньня | У %% за 2-гі год карыст. | | |
| Вятскі . . . | 5.380 | 100 | 5.003 | 100 | 10.383 | 100 |
| Смаленскі (позьні) . | 5.560 | 103.36 | 4.671 | 93.37 | 10.231 | 98.54 |
| Арлоўскі . . . | 5.470 | 101,68 | 4.326 | 86.45 | 9.796 | 94.34 |
| Уфімскі . . . | 5.109 | 94.96 | 4.477 | 89.46 | 9.586 | 92.38 |
| Чэшскі . . . | 4.927 | 91.60 | 1.658 | 33.13 | 6.585 | 63.42 |
| Польскі . . . | 4.702 | 87.40 | 1.507 | 30.12 | 6.209 | 59.79 |

Як відаць з гэтай табліцы, лепшымі па ўраджайнасьці зьяўляюцца нашы расійскія канюшыны позьнясьпелыя паўночныя і з імі саперні-

чае толькі адзін Свалеўскі (замежны), а чэшскі і польскі (скорасьпелыя паўднёвыя) амаль што ў два разы ўступаюць нашым па ўраджайнасьці.

Трэба адзначыць, што нашы паўночныя канюшыны (Вятская, Пермская, Уфімская) аднаўкосныя і атавы не даюць, але яны і без атавы даюць большы ўраджай, як скорасьпелыя атаўныя канюшыны. Паўднёвыя украінскія канюшыны амаль што не адрозьніваюцца ад скарасьпелых замежных канюшын.

У адносінах да хвароб нашы паўночныя канюшыны таксама больш трывалы.

Ва умовах Беларусі трэба пакідаць на насеньне канюшыну паўночную позьнясьпелую аднаўкосную і ўсімі спосабамі пашыраць канюшыннае насеннаводзтва, каб поўнасьцю здаволіць сельскую гаспадарку сваёй канюшынай, а ня прывознай з розных канцоў сьвету.

**Агр. І. Крупень.**

---

# Чым раней скосіш канюшыну, тым больш атрымаеш атавы.

*(З досьледу).*

У мінулым годзе, калі я касіў канюшыну, дык пакінуў кавалачак (5 кв. саж.) някошанай і скасіў гэту канюшыну ўжо пазьней, каб даведацца, як адбіваецца позны скос канюшыны на атаву. Скасіў я гэты кавалачак толькі на тыдзень пазьней. Дзеля параўнаньня пры першым скосе я выдзяліў такую-ж дзялянку ў 5 кв. саж. і на гэтай дзялянцы я атрымаў 28 фун. атавы, а на дзялянцы, дзе канюшыну скасіў на тыдзень пазьней, атрымаў атавы 10 фун.

Канюшына сеялася на аднолькавай зямлі і адным насеньнем. Гэты-ж вопыт быў і ў Тодара Рубекі (Магілеўшчына, в. Цішаўка). Першую палову свайго вучастку канюшыны Рубека скасіў на 10 дзён раней, чым другую. На першым вучастку атава была таксама добрая, а на другім зусім дрэнная.

Такім чынам, найлепш касіць канюшыну раней у пачатку красаваньня.

*Як лепш сушыць канюшыну.* Сушка і прыборка канюшыны патрабуюць вельмі шмат часу. У сувязі з гэтым шмат сялян сушаць канюшыну, як сена, і выціраюць шмат лісьця і кветак.

Я сушу канюшыну такім спосабам, што яна не выціраецца і не патрабуе вельмі шмат часу.

Звычайна пасьля скосу трэба, каб канюшына паляжала ў пакосах суткі, а калі дрэнная пагода, дык два дні. Пасьля гэтага трэба павярнуць канюшыну і праз гадзіны тры сабраць у копы. Копы трэба складаць ня больш 8-мі пудоў. Праз два дні копы трэба перакласьці ці абярнуць і так даць ім паляжаць на полі яшчэ дні чатыры, а потым браць у двор.

Пры такой сушцы канюшына добра вяне і сохне, а галоўнае лісьце і кветкі не абвальваюцца. Канюшына мае зялёны колер, хаця зьверху коп нямнога і пажаўцее, але гэта ня псуе сена.

(Магілеўшчына, в. Цішаўкі). Сел. **А. Фурса.**

# Як утварыліся глебы на Беларусі.

У даўнія часы большая частка Беларусі знаходзілася пад лёдам, які прыпоўз сюды з паўначнай стараны, з вялікага Скандынаўскага горнага масыву. Спаўзаючы з гор, лёд аддзіраў ад іх вялікія часткі, крышыў іх, драбіў, пераціраў адна аб адну і цягнуў з сабою. Потым лёд пачаў раставаць і як-бы адыходзіць, зноў на поўнач, пакідаючы на месцы ўсю мешаніну з каменьняў вялікіх і дробнаперацёртых; гэты матар'ял, які лёд пакінуў на апошнім месцы свайго існаваньня, завецца *марэнай* або глінай. У гліне мы знаходзім *каменьня* рознай велічыні і самыя дробныя *часьцінкі гліны*—і ўсіх гэтых часьцінак (вялікіх і дробных) зьмешана прыблізна пароўне.

У часы стайваньня лёду парабіліся вялікія патокі вады; вада перамывала пакінутую марэну (гліну), вымывала з яе больш-менш дробныя часьцінкі і несла іх у сабе. Чым далей цякла гэтая вада, тым сіла яе зьменшалася і быў час, калі больш вялікія часткі павінны былі апасьці на дно, а больш дробныя вада яшчэ панесла далей. З гэтых больш вялікіх часьцінак утварыліся пескавыя абшары Беларусі.

Час ад часу здаралася, што вада пападала ў такое месца, з якога ня было куды ей сьцякаць—тады дробныя часьцінкі спакойна ападалі ў вадзе і значны слой гэтакіх часьцінак пескавога пылу завецца *лёсам*, а ў сялян—жоўтай глінай. Зразумела, што ў лёсе або „жоўтай гліне", мы ніякіх каменьняў ужо ня знойдзем, бо вада магла несьці з сабою толькі невялікія часьцінкі.

Гэтакім чынам мы бачым, што на Беларусі існуюць тры галоўныя пароды: марэна, пясок і лёс; гэтыя пароды завуцца пародамі *пакроўнымі*, бо яны пакрываюць сабою тыя пароды, якія былі на паверхні зямлі да наступаньня лёду.

Іншы раз здараецца, што пры рыцьці калодзежаў прабіваюць адзін пласт гліны, пад якім ідзе пласт пяску, а пад пяском ізноў гліна (марэна)—гэта сьведчыць аб тым, што ледавік два, а нават і тры разы пакрываў, засьцілаў сабою Беларусь і кожны раз пакідаў на месцы марэну, пясок і лёс.

У свой час марэна, пясок і лёс пакрыліся расьліннасьцю: зьявіўся перагной, пачала рабіцца *глеба*. Гэтакім чынам, *глебаю будзе звацца тая частка пакроўнай пароды, на якой растуць расьліны, у якой вядзе сваю працу вада з дажджу і сьнегу, куды пранікае паветра і г.д.*

Расьлінасьць сваімі карэньнямі, вада і паветра,—усе яны перарабляюць тым ці іншым спосабам пароду, але ўсе-ж тыя ўласьцівасьці, якія мела парода, застаюцца і ў глебе.

Зробім у полі досыць глыбокую ямку і добра яе абчысьцім. На баку ямкі мы ўбачым, што ад паверхні да пароды знаходзіцца ў глебе некалькі пластоў. Гэтыя пласты завуцца *глебавымі пазёмамі*. Кожны з іх мае свой колер, свой склад, свае ўласьцівасьці; у адным пазёме мы знойдзем крыху перагною („чорнае зямлі"), у другім—наадварот больш белявых часьцінак—пазём падзолісты; іншы мае чырвоны колер, цяжка капаецца рыдлёўкай; адзін пазём складаецца з больш вялікіх часьцінак: ён будзе добра прапушчаць ваду і паветра; другі з часьцінак вельмі дробных, перацёртых:—ён будзе добра трымаць у сабе ваду і нават зусім ня будзе прапушчаць яе праз сябе, над ім можа зрабіцца часовае балота і г. д.

Трэба адзначыць, што гэтакае пабудаваньне глебы адбывалася ў працягу вялікага ліку сталецьцяў, павольна, крок за крокам. І нам цяпер здаецца, што глеба ў нашыя гады знаходзіцца ў нейкім застыўшым стане; але гэта ня так, бо тыя прычыны, якія калісь працавалі над пародай, працуюць цяпер над глебай павольна зьмяняючы ўсе яе пазёмы з усімі іх уласьцівасьцямі.

Агр. **П. Кучынскі.**

---

# Падзолістая глеба, як вытворчая фабрыка земляроба.

Праз глебу земляроб дабывае сабе ўраджай. Для земляроба павінна быць цікава і карысна ведаць самы мэханізм вытворчай глебы, ці добра яна працуе, што ў ёй трэба паправіць і як высока магчыма падняць вытворчасьць глебы. У даным выпадку я буду гаварыць толькі аб падзолістай глебе і таму, што на Беларусі пашыраны толькі падзолістыя і балоцістыя глебы.

Мэханізм глебы вельмі просты. Дажджавая і сьнегавая вада, пападаючы на паверхню зямлі, працякае ў значнай меры ў глыбіню зямлі. Вядома, што яна пры гэтым будзе рашчыняць некаторую частку зямлі і выносіць уніз. Цяжка вадзе рашчыняць у сабе глебавыя часткі, але пры дапамозе расьлін і мікробаў яна гэта патрошкі робіць. З працягам часу з верхніх пластоў глебы значны лік прадуктаў вымываецца, цалкам вымывацца ўся вапна, якая даволі цяжка рашчыняецца ў вадзе і пачынае вымывацца жалеза, якое прыдае зямлі чырвоны колер.

Глеба як бы падзяляецца на два пласты: асьветлены верхні бялявага колеру і асабліва чырвоны ніжні. Справа ў тым, што вада на некаторай глыбіні глебы расходуецца карэньнем жывых расьлін, а вымытае вадой жалеза і частка іншых прадуктаў адкладаюцца ізноў.

Зусім адваротнае адбываецца ў глебе пад уплывам расьлін. Сваімі каранямі, якія расьліна шырока і глыбыка пускае ў зямлі яна здабывае сабе патрэбныя пажыўныя матэрыі, якія ідуць на пабудову карэньня, сьцябла, лісьця і г. д. Калі з поля здымаецца ўраджай, дык значная частка прадуктаў глебы пры гэтым траціцца зусім для глебы. Тое-ж, што застаецца ад расьлін (рэжэўнік, карэньні) перагнівае і зьмешваецца з глебай. Галоўная частка перагною адкладаецца ў глебе бліжэй паверхні яе. Такім парадкам расьліны падымаюць частку прадуктаў глебы з глыбіні да паверхні. На гэтым і грунтуецца сыстэма палепшаньня глебы праз залеж. Сяляне кажуць, што глеба пры гэтым адпачывае; відавочна, што дзейнасьцю дзікіх расьлін глеба абагачвае свой верхні пласт пажыўнымі матэрыямі.

У выніку вымываньня і жацьця расьлін глеба прымае прыблізна наступны выгляд:

Ад 0 да 18 см.—шэры, перагнойны пласт з астачаю тоўстых каранёў расьлін; пласт гэты звычайна пульхны, распаханы.

18—40 см. жаўтавата-бялёсы падзолісты больш бялёсы кнізу, чым зьверху; карэньні рісьлін рэдкія і тонкія.

40—100 см.—жаўтавата ці буравата-чырвоны; пласт адкладу вымытага зьверху жалеза, моцна сцэмэнтаваны, часта распадаецца на камкі.

Ніжэй ідзе мала зьменены грунт (падглеб'е) крыху сьвятлейшага колеру, чым пярэдні.

Чым бялейшы і шырэйшы падзолісты пласт, чым глеба больш ападзоленая, тым больш у ёй прадуктаў пераходзяць у глебавы рашчын. Гэтаму ў значнай меры дапамагаюць расьліны, якія выдзеляюць сваімі маладымі карэнчыкамі кіслату, і мікробы, якія дапамагаюць згніваньню астаткаў расьлін.

Падзолісты пласт глебы зьяўляецца паказчыкам таго, на колькі інтэнсыўна працуе наша фабрыка.

Расьліна можа скарыстаць толькі тыя прадукты глебы, якія перашлі ў рашчын. Яна ўсасывае іх у сябе разам з вадою праз маладыя тонкія карэнчыкі, і па асобных жылках пераносіць ад кораня ў сьцябло, галіны, лісьце і г. д.

Наш пасеў на полі толькі тады дасьць добры ўраджай, калі ў рашчыне глебы знаходзіцца даволі пажыўных матэрый. З гэтага пункту гледжаньня падзолістая глеба зьяўляецца вельмі добрай вытворчай с.-г. фабрыкай, бо рашчыненьне ў ёй прадуктаў глебы ідзе з вялікаю сілаю.

Усе мы прызвычаліся думаць, што найлепшымі глебамі зьяўляюцца чарназёмы,—бо яны багаты перагноем і іншымі патрэбнымі для расьліны прадуктамі. Яны заўсёды пульхны і не патрабуюць асаблівай апрацоўкі. Кажуць, што там досыць троху падрапаць зьверху глебу, пасеяць і ўсё добра парасьце.

Тут ёсьць свая доля праўды, але аб чым яна сьведчыць. Чарназёмы ляжаць на поўдзень ад падзолістых глеб. Там больш горача, значна менш выпадае дажджоў і сьнегу. Тая вада, якая працякае ў глебу, далёка не праходзіць, бо хутка расходуецца густым травяным стэпам і у чарназёмах адчуваецца недахоп вады. Таму гэта глеба мала прамыта і ў ёй шмат перагною, які не пасьпявае раскладацца да канца. У летку трава ў стэпу выгарае за недахопам вады.

Запасы пажыўных матэрый для расьлін там вялікія, але ў глебавым рашчыне іх бывае мала. Вясной, увосень і ў вільготнае лета там часамі усё добра расьце, але ў сухія годы летам у глебе не хапае вады, фабрыка становіцца і ўсё гіне. Чарназём, як фабрыка, працуе ня поўнай нагрузкай, часам і зусім становіцца.

Зусім іншае з нашай падзолістай глебай; яна заўсёды працуе добра. Але тут ёсьць недахопы падзолістае глебы. У той час, калі няма расьлін, значная частка прадуктаў глебы вымываецца ў глыбіню грунта. Вось чаму нашы глебы заўсёды пустыя. У іх, як на добрай фабрыцы, ніколі няма вялікіх запасаў сырцу: зараз-жа яны ідуць у пераработку.

Як вытворчая фабрыка, у земляробстве падзолістая глеба зьяўляецца найлепшай глебай. Але пры ёй земляробу патрэбна быць умелым і руплівым майстрам. Трэба ў свой час падаць патрэбныя матар'ялы, даць належнае ўгнаеньне, добра апрацаваць і г. д. А карысьць ад гэтага будзе відавочная.

На падзолістых глебах дадуць вялікую карысьць і такія сырыя і танныя угнаеньні, як размолаты фосфарытавы камень (фасфарытная мука), торф, гной, лубін на зялёнае ўгнаеньне і інш. Падзолістая глеба сама зьяўляется добрай фабрыкай для пераработкі сырых угнаеньняў у глебавы рашчын.

Таксама заўважана, што найбольшая вытворчасьць нашых падзолістых глеб ня толькі ня меншая за іншыя глебы, а нават большая.

З шырокай практыкі вядома, што чарназёмы даюць звычайна ўраджаі ў 80—120 пуд. жыта на дзес. Між тым у Нямеччыне і ў Бэльгіі, дзе тэхніка сельскай гаспадаркі стаіць вельмі высока, на падзолістых глебах сярэднія ўраджаі падняліся ўжо да 150 і 165 пуд. на дзес. На дасьледчым-жа полі Ціміразеўскай Акадэміі пад Масквой у 1921 г. дзес. жыта дала 247 пудоў.

Поўная забясьпечанасьць падзолістай глебы вадой—мерны клімат, адсутнасьць шкоднікаў, якія на поўдні значна шкодзяць сельскай гаспадарцы,—складаюць вельмі спрыяючыя умовы для разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў нас на Беларусі. Аднак, тысячагодзьдзямі сельскага гаспадараньня спустошаныя глебы даюць вельмі слабыя ўраджаі (30-40 п. жыта) і селянін прымушан кідаць сваю старонку і шукаць сьвяжэйшай зямлі ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, дзе прыродныя умовы ў значнай меры падобны нашым.

Наша-ж глеба ўсё працуе і патроху псуецца. Земляроб, пазнавай сваю фабрыку—глебу і давай ёй „сырцу“, угнаеньняў, каб не працаваць у пустую.

Горы-Горкі. **П. Рагавы.**

---

## Чаму патрэбен добры выраб поля.

Пры якіх умовах наша глеба дае высокі ўраджай? Напэўна тады, калі яна найлепш адказвае тым вымаганьням, якія ставіць ёй культурная расьліна ў час свайго росту.

У аснаўным вымаганьні расьліны ад глебы можна акрэсьліць так:

1) здавальненьне расьліны належным запасам вады, прычым вада гэта павінна знаходзіцца ў тым пласту глебы, дзе распаўсюджана галоўная маса карэньняў расьліны;

2) здавальненьне карэньняў расьліны сьвежым паветрам (інакш кіслародам); прыток паветра ў глебу таксама неабходны і дзеля розных вельмі патрэбных культурнай глебе хэмічных і біолёгічных працэсаў (праца мікробаў, расклад органічнай матэрыі і інш.);

3) забясьпячэньне расьліны неабходным запасам мінэральных солей, як непасрэдным іх укладаньнем у глебу праз угнаеньне (гной, мінэральныя парашкі, зялёнае ўгнаеньне), так і стварэньнем у глебе належных умоў для прыроднага ўзбагачэньня глеба гэтымі солямі (з вадою дажджу, праз працу бактэрый на карэньнях бабовых—азот).

Гэтыя тры асноўныя вымаганьні культурнай аднагадовай расьліны ад глебы ва умовах нашага гаспадараньня здавальняюцца па рознаму, чаму і ўраджаі нават у двух гаспадароў аднаго невялічкага раёну бываюць розныя.

У асноўным выпаўненьне пералічаных галоўных вымаганьняў расьліны залежыць ад аднэй, здаецца, мала прыметнай уласьцівасьці *пабудовы, або структуры*—глебы

Гэтая пабудова глебы на розных глебах і пры розных умовах можа быць таксама рознай, але заўсёды будуць дзьве процілеглыя яе формы: *разьдзельна-зёрная глеба* і *дробна-камкаватая*. Першая выяўляе сабою дрэнную глебу, а другая вельмі добрую, ураджайную. Пад уплывам адных прычын, як угнаеньне хляўным гноем, зялёным ўгнаеньнем, пасеў шматгадовых траў, належны выраб поля, глеба будзе пады-

ходзіць бліжэй да найлепшай пабудовы—дробна-камкаватых (ураджайных) глеб, а пад уплывам другіх—дрэннай апрацоўкі, пашы скаціны па сялянскаму папару, пасеву падрад некалькі год асыпных расьлін—глеба будзе траціць дробна-камкаватую пабудову і пераходзіць у пылаватую, разьдзельна-зёрную

Чым-жа дрэнна разьдзельна-зёрная пабудова глебы і чаму яна не здавальняе расьліну вадою, паветрам і пажыўнымі солямі? А дрэнна тым, што паасобныя часьцінкі пылаватай глебы паміж сабою не зьвязаны і ляжаць, як мука ў мяшку. Паміж паасобнымі часьцінкамі глебы ёсьць вельмі малыя ходы і зусім няма больш менш ёмістых пустот. Даволі пайці дажду або вясною зьявіцца на такім полі вадзе ад таючага сьнегу, як пылаватая глеба намокне толькі няглыбокім сваім верхнім пазёмам і глыбей будзе мала пускаць ваду праз сябе. Значная частка вады будзе сьцякаць па паверхні глебы на нізіны. Вялікага-ж запасу вады для росту расьлін такія глебы зрабіць ня могуць.

Зараз-жа пасьля дажджу пылаватая глеба пачынае выпарваць ваду з паверхні, бо пылаватая глеба паміж сваіх „зёрнаў", як-бы ўтварае тонкія трубачкі, па якіх вада сама падымаецца на паверхню глебы і тут выпарваецца. Такім чынам, пылаватая глеба дрэнна сабірае ваду і дрэнна яе захоўвае. Найбольш, што яна можа сабраць на дзес., дык гэта 60.000 пуд. вады, што па разьліку на ўраджай (найбольшы) дасьць 60 пуд. зярна (1000 пуд. вады на 1 пуд. зярна). Але пылаватая глеба і 60 пуд. ня дасьць, бо здараецца так, што ў яе не хапае вады для расьлін у самы адказны пэрыяд—ад часу куставаньня да красаваньня расьлін.

Пра недахоп паветра ў пылаватай глебе і гаварыць ня трэба, бо такая глеба пры сваёй шчыльнасьці ня мае ніякіх пустот, дзе магло-б зьмясьціцца паветра. Такім чынам, пры разьдзельна-зёрнай (пылаватай) глебе расьліна адносна двух першых фактараў роста (вады і паветра) будзе знаходзіцца ў дрэнных умовах.

Зусім іншы малюнак адносна захаваньня вады і доступа паветра выяўляе дробна-камкаватая глеба (структурная глеба). Тут культурны пласт глебы будзе складацца з дробных камочкаў (5-10 мм.), якія ў сваю чаргу складаюцца з паасобных зёрнаў (як у першым выпадку ўся глеба). Гэтыя зёрны ў камочку як-бы склеены перагнойнай масаю і даволі трывалы супроць вады, працы бараны і г. д. Паміж сабою камочкі стыкаюцца невялікімі краямі і тут-жа захоўваюць даволі ёмістыя пустоты.

Калі праходзіць дождж або сыходзіць сьнег пасьля зімы, дык вада на такім полі ня будзе застойвацца альбо сьцякаць у нізіны, яна мае даволі ходаў паміж буйных камочкаў, каб пранікаць на ўсю глыбіню воранага пласта і тут хутка будзе рассасвацца па тонкіх трубачках камочкаў. Пустоты-ж паміж камочкаў і ў гэтым разе застаюцца пустымі, куды свабодна будзе заходзіць паветра і прыносіць кісларод да карэньняў расьліны.

Такім чынам, дробна-камкаватая глеба найлепш сабірае і захоўвае ваду і здавальняе расьліну паветрам. На 1 дзес. дробна-камкаватай глебы можа сабрацца 360 тыс. пуд. вады і значыць ёсьць мажлівасьць павялічыць ураджай да 360 пуд. зярна[1]).

---

[1]) Найбольшы ўраджай мы ведаем 247 п. жыта (Дасьледчае поле Ц. с.-г. А. 1921 г).

Цяпер паглядзімо, як гэтыя глебы здавальняюць расьліну пажыўнымі матэрыямі (мінэральнымі солямі). Вядома, што большая частка патрэбных расьліне мінэральных солей з'яўляецца ў глебе ў выніку раскладу органічнай часткі, гэта значыць гною, зялёнага ўгнаеньня, карэньняў расьлін (асабліва канюшыны і траў), заворваньня сарнін і г. д.

Але для расклада расьліннай (органічнай) масы глебы да мінэральных солей неабходны належныя умовы, а іменна: доступ паветра і прысутнасьць вады, бо інакш у глебе ня будуць працаваць тыя мікробы, якія пераводзяць органічную масу ў солі. Вось чаму і гэты працэс—намножаньне мінэральных солей (асабліва азоту) найлепш праходзяць ў дробна-камкаватай глебе, дзе добра трымаецца вада ў камкох глебы, а паміж камкоў знаходзіцца паветра.

Нічога гэтага няма ў разьдзельна-зёрнай (пылаватай) глебе, чаму там і расклад органічнай масы глебы амаль зусім заміра і патрэбныя мінэральныя солі не ўтвараюцца.

Цяпер, як для вывада з ўсяго гаворанага, неабходна сказаць, што пры вырабе поля і трэба ставіць задачаю:

1) Дабіцца вырабам поля (працаю плуга, пружыннай бараны ці культыватара) найбольшай камкаватасьці глебы. Асьцярагацца распыльваньня глебы бараною.

2) Асьцярагацца глыбістай воранкі поля. Такая воранка ніякай карысьці не дае. Глыбы будуць ляжаць асабняком, абвяваюцца ветрам і высыхаюць. Ніякога раскладу органічнай масы ў іх ня будзе, бо там ня будзе вады. Першы дождж змые з іх толькі пылок. Праца бараны таксама будзе надзіраць той-жа непатрэбны пыл. Глыбы застануцца ляжаць, хоць іх разьбівай абухам.

3) Пасьля заворкі дзярніны, канюшынішча, лубіну і г. д. трэба час ад часу падварушваць зьверху пласт, каб паветра мела пастаянны доступ да раскладаючайся расьліннай масы. Пры заворцы дзярніны стараюцца дасягнуць поўнага абарота скібы (пласта), каб перш задушыць жывыя расьліны.

4) Бязумоўна, вырабам поля трэба зьнішчаць і сарнякі.

Такім чынам бясспрэчна, што ўмелым вырабам поля—уводам у севазварот траў, заменай позьняга сялянскага папару раньнім або чорным, угнаеньнем хляўным гноем, кампостам і інш., мы дабіваемся дробна-камкаватай пабудовы глебы, якая і стварае найлепшыя умовы для высокага ўраджаю расьліны.

Прывяду толькі адно лічбовае параўнаньне па проф. А. Г. Даярэнка:

| | Позны папар. | Раньні папар. |
|---|---|---|
| Усяго паветра ў глебе (агульная скважнасьць) у $^0/_0{}^0/_0$ | 43.8 | 53.8 |
| Аб'ём пустот паміж камкамі глебы (некапілярная скважнасьць) да усяго паветра глебы ў $^0/_0{}^0/_0$ | 18.0 | 47.0 |
| Найменшая вільготнасьць глебы | 5.2 | 13.7 |
| Салетры на дзес. (пуд.) | 7.5 | 34.9 |
| Ураджай на дзес. (пуд.) | 112 | 168 |

Так па разнаму выяўляюць сябе позны сялянскі і раньні папары. У выніку гэтага і ўраджаі жыта неаднолькавы.

**С. Тупяневіч.**




# Мае досьледы ў 1927 годзе.

Вясною гэтага году я залажыў наступныя досьледы.

*1-ы досьлед.* Параўнаньне, які уплыў мае на ўраджай бульбы гной, а таксама штучныя гнаі: калійная соль і супэрфосфат.

Дзеля гэтага я адвёў 360 кв. саж. і разьбіў поле на 16 дзяланак, па 10 кв. саж. кожная. Схэма досьледу такая:

1) Кантрольная
2) Гной 1440 пуд. на дзес.
3) Гной 1440 кал. соль 12 пуд. і супэрф. 12 п.
4) Калійняя соль 12 п. на дзес.
5) Супэрфосф. 12 п.
6) Кал. соль 12 п. і супэрф. 12 п.
7) Кал. соль 6 п. і супэрф. 6 пуд.
8) Кал. соль 3 п. і супэрф. 3 п.

Паўторныя дзялянкі ў адваротным парадку. Абаронная паласа паміж дзялянак у 1-2 саж. Садзіў бульбу 12-га мая.

*2-гі досьлед.* Параўнаньне ўраджаю бульбы з караньплодамі—буракамі і кармоваю морквaю (што лепш у нас сеяць і што дае больш кармовых адзінак). Садзілі 21 мая.

*3-ці досьлед.* Параўнаньне ўраджаю жыта з азімаю пшаніцаю.

*4-ы дослед.* Параўнаньне ўраджаю азімага жыта на розных угнаеньнях і розных папарах.

*5-ы досьлед.* Запіс працы па ўсёй гаспадарцы і паасобна на кожным полі севазварота.

*6-ы досьлед.* Пасеў кармовай морквы на мінэральным угнаеньні—калійнай солі, супэрфосфату, чылійскай салетры, а таксама па гнаі.

Схэма досьледу:

1-я дзял. Кантрольная.
2-я „ Калійнаяя сол.
3-я „ Супэрфосфат.
4-я дзял. Калій. соль+супэрф.
5-я „ Кал. соль+супэрф.+ чылійская салетра.
6-я дзял. Гной.

*7-ы досьлед.* Ураджай капусты ад расады, выгадаванай у парніку і без парніка з падсевам мінэральных угнаеньняў. Пасадка наградах і бяз град у рады.

*8-ы досьлед.* Запіс удояў кароў (вядзецца другі год).

*9-ы досьлед.* Параўнаньне ўраджаю раньняй і позьняй бульбы.

*10-ы досьлед.* Прышчэпка вясною дзічак.

*11-ы досьлед.* Параунаньне ўраджаю выкі ў чыстым пасеве.

*12-ы досьлед.* Пасеў люцэрны.

*13-ы досьлед.* Параўнаньне ўраджаю кармовай морквы, турнэпсу і буракоў.

Сел. дасьледчык **А. Карнейчык.**

(Хутар Сарачынава, Пухавіцкі р.).

# Досьлед з бульбай у вёсцы Клянік, Смалявіцкага р-ну.

Велічыня дзяланак была па 40 кв. саж. Дасьледчае поле было роўным на ападзоленым суглінку. Поле ўгнойвалася 11 гадоў таму назад хляўным гноем па разьліку 240 пуд на дзес. Пад бульбу аралася на зіму ў другой палове верасьня сакаўскім плугам на глыбіню 4-5 вярш. Вясною поле пружынавалася ўдоўж і поперак, а далей клаліся мінэральныя ўгнаеньні згодна схэмы вопыта і прыкрываліся бараною з жалезнымі зубамі ў адзін сьлед. Пасьля баранаваньня, на некаторыя дзялянкі вазіўся гной, растрасаўся і ў той-жа дзень садзілася бульба.

Бульба садзілася пад параконны плуг і клалася не на дно баразны, а ўтыркалася ў пульхную скібу з такім разьлікам, каб другой скібай яе засыпаць не глыбей $1^1/_2$-2 вяршк. Пасадка бульбы па некаторым гаспадарчым прычынам рабілася даволі позна (25 мая) і цэлымі бульбінамі.

Высаджана на кожную дзялянку па 1 пуду 37 фун. дробнаватай бульбы. 23 чэрвеня зьявіліся ўсходы, калі бульбу пабаранаваў адзін раз у два сьляды. Праз дні 4 пасьля баранаваньня бульба была падварушана грацай (падобна да прапашніка). 3-га ліпеня расьсявалася салетра на дзялянках, дзе патрэбна было пакласьці азотнае ўгнаеньне. У той-жа дзень бульба асыпалася асыпнікам, а праз два тыдні бульба яшчэ раз асыпалася асыпнікам. Больш на дасьледчым вучастку ніякай працы ня вялося.

Перад выбіраньнем бульбы быў паведамлен аграпункт, адкуль прыехаў аграном і прысутнічаў пры ўборцы (4 і 5 кастрычніка). Вучот досьледа даў такія вынікі:

| №№ дзялянак. | Чым угноена дзялянка | Ураджай бульбы з дзес. | |
|---|---|---|---|
| | | I сэрыі | II сэрыі |
| 1—11 | Без угнаеньня кантрольная | 684 | 654 |
| 2—12 | 1200 п. гною | 1388 | 1270 |
| 3—13 | 2400 п. гною | 6104 | 1566 |
| 4—14 | 1200 п. гною+3 п. фосфору ў супэрфосфате | 1410 | 1326 |
| 5—15 | 1200 п. гною+3 п. калія ў 30% кал. солі | 1406 | 1362 |
| 6—16 | 1200 п. гною+2 п. азоту ў нарвэжскай салетры | 1260 | 1252 |
| 7—17 | 1200 п. гною+3 п. фосфору+3 п. калія | 1386 | 1520 |
| 8—18 | 1200 п. „ +3 п. азоту+3 п. фосфору | 1454 | 1292 |
| 9—19 | 1200 п. „ +3 п. калія+2 п. азоту | 1328 | 1388 |
| 10—20 | 1200 п „ +3 п. фосфору+3 п. калія+2 п. азоту | 1432 | 1524 |

З вынікаў досьледу відаць, што прыбаўка азотнага ўгнаеньня да палавіннай колькасьці гною (1200 пуд.) зьяўляецца нават шкоднай. На дзял. № 2 (1200 п.) ураджай на дзес. 1388 п., а на дзял. № 6 (гной 1200 п.+2 п. азоту) атрымана на дзес. 1260 п. Значыць ад прыбаўкі азоту ўраджай паменшыўся на 128 пуд. Такія-ж вынікі на паўторных дзяланках (II сэрыя).

Найвялікшы ўраджай атрыманы на дзял. з поўным гнаёвым угнаеньньнем (дзял. №№ 3 і 13). Калі-ж гною мала, дык можна яго ўносіць палову нормы—1200 пуд. і дабаўляць толькі аднаго калійнага ўгнаеньня, каб чыстага калія палажыць на дзес. 3 п. Можна спадзявацца, што гэта акупіцца ўраджаем бульбы. Уносіць другія мінэральныя ўгнаеньні пад бульбу па маім досьледам будзе ўбытачна, а азоцістыя угнаеньні ў нас нават зьніжаюць ураджай.

Цікава, якія былі вынікі гэтага досьледу ў другіх сялян, бо пэўна на адну тэму было па некалькі доследаў.

Сел. дасьледчык **А. Ганчарык.**

(в. Клянік, Смалявіцкага р.).

---

# Карысьць ад тамасаўкі.

У красавіку м-цы 1926 г. у селяніна Майсейкава быў закладзен дасьледча-паказальны вучастак павярхоўнага паляпшэньня сенажаці. Сенажаць сухадольная, заросшая мохам і кіслымі балотнымі травамі. Добрых салодкіх лугавых траў было ўсяго процантаў 25 ($^1/_4$). Сена зьбіралася дрэннай якасьці пудоу 100-120 на дзес.

На лугу зроблена было баранаваньне, потым пасыпалі тамасаўкі 19 фун. на вучастак у 48 кв. саж. На дзес. трэба было-б палажыць 24 пуд. тамасаўкі. Угнаеньне было забаранавана, а пасьля пасеяны травы: райграс францускі, купкоўка, канюшына і цімафейка. Больш ніякай працы ня было.

Вынікі-ж былі надта добрыя. Яшчэ калі не пара было касіць сена, дык можна было бачыць і наперад сказаць, што якасьць сена будзе лепшай, а колькасьць большая у параўнаньні з вучасткам у 48 кв. саж., дзе нічога не рабілася.

Збор-жа ўраджаю нам гаворыць наступнае:

| Дзял. | Чым угноена | Што яшчэ зроблена | Урадж. з 1 дзял. | Ураджай з 1 дзес. |
|---|---|---|---|---|
| № 1. | 19 фун. тамасаўкі | Баранаваньне і падсеў траў . . . . | 4 п. 20 ф. | 225 пуд. |
| № 2. | Без угнаеньня . | Нічога . . . . | 2 п. 20 ф. | 125 пуд. |

Бачым, што невялікая праца і страта на гэту справу маленькай сумы грошай, можа павялічыць ураджай сена і палепшыць яго якасьць на вялікую суму.

(Страшынскі р.). Агр. **Б. Я. Анцюх.**

---




## Замацоўвайце сыпучыя пяскі.

Па зьвесткам, якія сабраны яшчэ праз Валасныя Выканаўчыя Камітэты, некалькі гадоў таму назад, на абшары Беларусі налічвалася больш за 3000 гэктараў лятучых пяскоў і блізка каля 20000 гэктараў задзярнелых пясчаных плошчаў. Вядома, гэта лічба прыблізная і трэба лічыць, што ў сучасны момант но абшары БССР пясковых плошчаў шмат больш, ня гледзячы нават на тое, што з году ў год яны патроху замацоўваюцца і засаджваюцца лесам. Гэта гаворыць за тое, што у нас вельмі шмат непрадукцыйнай плошчы, якая нічога не дае. Мала таго, пяскі асабліва лятучыя, калі іх не замацоўваць, павялічваюцца альбо, як кажуць, „растуць“ і захопваюць новыя плошчы. Здавалася-б, што пры нашай перанаселенасьці на Беларусі, калі не хапае зямлі пад сельска-гаспадарчае карыстаньне, а таксама і лесу брыдка нават і гаварыць, што маецца гэтакі веліч бескарысных плошчаў.

Значыць, пяскі ня толькі самі нічога не даюць, але яшчэ нішчаць некаторую сумесную плошчу, якою карыстаецца сельская гаспадарка.

Праўда, ужо даўно з пяскамі вядзецца барацьба, гэта добра ведаюць тыя сяляне, якія непасрэдна так ці іначай вялі барацьбу з пясчанымі заносамі. Трэба нават адзначыць, што ад гэтага яны мелі і добрыя вынікі, бо не дапусьцілі іх распаўсюджаньня, а тым самым захавалі свае палеткі ад стыхійнай пагрозы. Але бяда ў тым, што на гэтым усё супынялася, бо першая барацьба з пяскамі,—гэта іх замацаваньне. Гэтым самым мы ўжо збаўляемся ад непасрэднай стыхійнай пагрозы.

Але на гэтым супыніцца нельга. Трэба заўважыць яшчэ другі бок пытаньня, як-жа скарыстоўваць гэтыя замацованыя плошчы. Што рабіць далей? А вось што. Калі пяскі ўжо крыху затрымаліся, то на іх ўжо скора пачынаюць з'яўляцца памаленьку травы, праўда, нікчэмныя, але за тое вельмі пажаданыя, бо гэта прымета далейшага замацаваньня, якое ўжо ўтвараецца самой прыродай. Калі не перашкаджаюць, дык гэтым расьлінкі будуць паступова павялічвацца самі і ўсё больш захапляць плошчу пяскоў і праз некалькі гадоў змогуць зацягнуць пяскі, а там і ўтвораць дзярніну. Цяпер, калі ня вельмі далёка будзе расьці лес, то зараз памаленьку гэтыя плошчы будуць займацца ляснойі расьліннасьцю і праз некаторы больш - менш значны час тут будуць расьці хваёвыя дрэвастаны з прымешкай бярозы, а то і іншых лясных парод. Значыць, трэба толькі адразу ўстрымаць лятучыя пяскі, а тады яны самі паступова прыродным парадкам пакрыюцца лесам

і такім парадкам пяройдуць ў карысныя плошчы. Тады зразумела, на іх трэба весьці лясную гаспадарку і яны назаўсёды застануцца карыснымі ляснымі плошчамі. Тут таксама неабходна адзначыць, што прыродным парадкам аблясеньне пяскоў будзеісьці больш-менш здавальняюча, калі ня будзе ніякіх парушэньняў на замацованай паверхні лятучых пяскоў, асабліва ня можна, каб па ёй хадзіла жывёла.

Цяпер напрашваецца пытаньне: „Дык можа найлепш будзе чакаць, калі пяскі самі пакрыюцца лесам"? Не, ня так. Паглядзім чаму прыродны спосаб ня можа нас здавольніць. Трэба мець на увазе, што найбольш пясчаных плошчаў знаходзіцца ў сялянскіх землях. Значыць, карыстацеляў тут шмат, а з гэтай прычыны цяжка зрабіць, каб той альбо другі гаспадар не парушыў жывёлай паверхні гэтых пясчаных плошчаў. Вось галоўная прычына, якая гаворыць нам, што тут кепскія умовы, каб гэтыя плошчы пакрываліся ў будучым лесам прыродным парадкам. Падругое, прыроднае аблясеньне пясчаных плошчаў ідзе само па сябе вельмі марудна і патрабуе некалькі дзесяткаў гадоў. Вось гэтыя галоўныя прычыны і гавораць нам за тое, што пры першай мажлівасьці чалавек павінен ісьці насустрэчу прыродзе і сваім розумам дапамагаць аблясеньню пясчаных плошчаў, тады шмат хутчэй ён зробіць іх ня толькі неперашкаджаючымі яго штодзёнай сялянскай гаспадарцы, але нават зусім карыснымі, якія ў далейшым будуць яму дапамагаць вытворчасьцю сваіх дрэвастанаў.

Паглядзім, ці мажліва гэта зрабіць з чыста практычнага боку, ці можна ажыцьцявіць такія мерапрыемствы? Здаецца, што гэта зусім мажлівая рэч. Мы добра ведаем, што нашы спэцыяльныя органы, як лясное кіраўніцтва акрземадзелы і інш. на гэта звярачаюць вялікую увагу. Яны ня толькі бяруць на сябе кіраўніцтва гэтай працай, але нават даюць некаторыя сродкі з дзяржаўнага бюджэту, каб дапамагчы сялянству ў іх працы. Але вось тут з боку сялянства не заўсёды ёсьць належачая прадпрыімнасьць і галоўным чынам шмат дзе пануе нейкая недбайнасьць да гэтай працы. Шмат хто кажа, што мы абыдземся так, як і да гэтуль жылі. Ёсьць і такія здарэньні, што на сходах, дык амаль ўсе згаджаюцца, а калі трэба ўзяцца за працу, тады нічога ня выходзіць, неяк ўсе пахаваюцца і трэба многа патраціць часу, каб што-небудзь зрабіць. Вось ад такой нярухомасьці зрываецца праца. Трэба з гэтым рашуча весьці барацьбу і не паддавацца на выкрыкі адзіночак, якія самі не разумеюць справы і ў другіх адбіваюць ахвоту. Само сабой зразумела, што тэта справа шырокіх сялянскіх мас і толькі дружнай, рашучай працай можна палепшыць становішча, тым больш, што пры дапамозе з боку дзяржаўных установаў гэта і ня так цяжка. За адзін-два дні можна шмат чаго зрабіць па замацаваньню лятучых пяскоў і па аблясеньню задзярнелых. Гэта асабліва лёгка правесьці яшчэ і тым, што гэтыя мерапрыемствы ня патрабуюць зусім грошай, бо мы ведаем, што лазу альбо пасадачны матар'ял можна атрымаць ў выхавальніках нашых лясьніцтваў, якія таксама дапамогуць і з боку кіраўніцтва. Значыць, за сялянамі астаецца дастаўка на месца працы матар'ялаў—флянсаў і самая работа з некалькімі коньмі і большым ці меншым лікам мясцовых сялян. А калі заўважыць, што гэта праца можа праводзіцца і вясной і позьняй восеньню ў моманты, калі зацішша ў сельска-гаспадарчай працы, дык зусім магчыма ахвяраваць адзін-два дні селяніну на сваю так званую „лесамэліарацыйную працу". А калі-б гэта было выканана, тады-б мы мелі замест вагромністай плошчы сыпучых і задзярнелых пяскоў хваёвыя дрэвастаны. Нават праз адзін-

другі дзесятак гадоў гэтыя няздольныя плошчы сталі-б ўжо хваёвымі маладнякамі, ў якіх можна зьбіраць чорнагаловыя баравікі, карыстацца ў часы адпачынку здаровым баравым паветрам і якім-небудзь падручным лесаматар'ялам. Тут можа хто скажа, што цяжка дачакацца лесу на гэткай глебе, але гэта памылка, бо ня толькі хваёвы лес можа тут расьці, але можа расьці якая колечы сельска-гаспадарчая расьліннасьць. Ва умовах нашага вільготнага клімату патрэбна толькі замацаваць чырвонай ці жоўтай лазой найбольш выдзімаемыя месцы, а паміж іх ўжо можна сеяць сэрадэлю, лубін, белую канюшыну, жытняк і інш. расьліны і такім парадкам на гэтых безкарысных плошчах зрабіць добрую пашу, альбо паступова іх падгатаваць пад грэчку, авёс, жыта і бульбу.

Тут трэба памятаваць, што якой бы нізкай якасьці ня была глеба, а хваёвыя дрэвастаны з падмешкай бярозы змогуць расьці і ў самым дрэнным выпадку дадуць у поўным сваім ўзросьце ня менш як 15-20 куб. сажняў featureрознай драўніны з аднага гэктару, а гэта ўжо значная каштоўнасьць. Калі мы, напрыклад, дзеля вёскі ў 20-30 двароў будзем мець 100 гэктараў гэтай плошчы пад лесам, то ў поўным узросьце маем запас драўніны (20×100)=2000 кубічн. сажняў, а на адзін двор прыдзецца 75-100 куб. сажняў. Разьмяркоўваючы гэты запас на абарот высечкі (80-ці гад.), каб ня весьці гаспадарку на зьнішчэньне, будзем мець штогодна драўніны на двор ня менш 1 куб. саж. Усё гэта добра ведаюць сяляне, якія яшчэ ў ранейшыя часы замацавалі свае бескарысныя пяскі і засадзілі іх лесам.

Неабходна ў самым хуткім часе усе нявытворчыя плошчы ўвесьці ў зварот сельскай і лясной гаспадаркі, што значна падыме нашу эканамічную моц, а гэта будзе тады, калі мы замацуем сыпучыя пяскі і скарыстаем іх ў напрамку павялічэньня с.-гаспадарчай плошчы альбо утворым на гэтых плошчах лес.

Патрэбна, каб сялянства ўзялося за гэту працу дружней і ахватней. У гэтым напрамку могуць значна дапамаччы Мэліарацыйныя Таварыствы.

**Т. Гаўрыловіч.**

---

# Спосабы вылічаць і разьмяркоўваць лесасекі ў лясох мясцовага значэньня.

Гаспадарка ў лесе бывае розная і ў залежнасьці ад вучастку лесу, які маецца ў гаспадарцы і што трэба палучаць ад лесу. Зразумела, што ня могуць мець адзін характар гаспадаркі ў хваёвым лесе ці ў асіньніку або ў бярэзьніку.

Лес вырастае, як з насеньня дрэва, так і ад парасткаў каля сьсечанага пня. Хваёвы лес (сасна, елка) вырастае толькі з насеньня, а лісьцяны можа вырастаць з таго і другога. Ліпа, асіна, вольха, больш ідуць у рост з парасткаў, а бяроза, дуб, ясень, клён з насеньня. У рубку лес гадзіцца ў розны час свайго жыцьця, гледзячы па пародзе і па патрэбнаму матар'ялу, які з яго дабываецца: на жэрдкі і дробнае бярвеньне лес раней пасьпявае, чым на буйнае бярвеньне для будоўлі.

Каб разьлічыць, колькі высякаць лесу штогод, трэба перш даведацца, колькі патрэбна часу, каб вырас матар'ял, які нам патрэбен. Трэба на пні, па тых слаёх, якія добра відаць пасьля сьпілаваньня дрэва, вылічыць узрост дрэва.

Як вядома, у кожны год прырастае адзін слой; такім чынам, колькі налічым на пні слаёў, столькі гадоў будзе мець наша дрэва.

Калі на некаторых пнёх гэтыя гадовыя слаі дрэнна відаць, дык сьвежа сьсечаны пень трэба змачыць вадою і тады слаі лягчэй пералічыць. Пералік патрэбна зрабіць на некалькіх пнёх, бо ня ўсе дрэвы растуць аднолькава, ды і на розных глебах лес расьце розна: на лепшай хутчэй, а на горшых павольней. Пасьля вывучэньня росту лесу, тэрмін сьпеласьці прыкладна будзе такі: бяроза будзе годна на дровы гадоў у 40—50, сасна і елка 60—70 гадоў, а на будаўляны матар'ял у 80—100 гадоў. На лепшых глебах і тэрмін сьпеласьці наступіць хутчэй.

Калі лес павінен даваць іншыя матар'ялы, напрыклад, ліпа—луб'ё, дубняк і вярба—кару на гарбарны матар'ял, арэшнік—абручы, дык тут і ўзрост сьпеласьці будзе невялікі—звычайна 10—20 гадоў.

Знойдзены такім парадкам узрост сьпеласьці паможа нам высякаць лес так, што мы будзем кожны год браць належную колькасьць драўніны ня нішчачы лесу. Калі, напрыклад, нам вядома плошча ляснога вучастку, скажам, у 100 дзес., а лес бярозавы, які пасьпявае ў 50 гадоў, дык кожны год можна сячы дзялянкі плошчаю ў 2 дзес. (100 дзес.:50=2 дзес.). Для невялікага вучастку разьлік разьмеру карыстаньня можна зрабіць і падрэўна. Дзеля гэтага для спробы бярэцца вучастак плошчаю 1 дзес. і на ёй пералічваюцца ўсе сьпелыя дрэвы. Калі мы, напрыклад, маем сасновы лес, дык у ім на дзесяціну сьпелага лесу будзе ад 500 да 800 шт., а пры тэрміне сьпеласьці ў 80 гадоў можна будзе высякаць штогодна з 1 дзес. 800:80=10 дрэў. Тут прыведзены самыя простыя прыклады, як вылічаецца разьмер штогоднага карыстаньня ў лесе, але такія разьлікі можна толькі рабіць у такім лесе, дзе ёсьць роўныя па плошчы вучасткі маладога, сярэдняўзроснага і годнага ў рубку (сьпелага) лесу. Такое разьмеркаваньне ў прыродзе здараецца вельмі рэдка, чаму паказаны спосаб вылічэньня лесасекі будзе не заўсёды правільным. Напрыклад, можа здарыцца, што ў перададзеным нам лесе мясцовага значэньня шмат сьпелага лесу—больш трэцяй часткі ўсяго вучастку і калі мы зробім такое вылічэньне гадавое лесасекі, як паказана вышэй, дык тады сьпелы лес будзе ў нас заставацца, што гаспадарцы нявыгадна: доўга перастаяўшы на пні лес пачне псавацца. У такіх выпадках ня варта высякаць і адразу ўсяго сьпелага лесу, бо тады ў наступныя гады мы ня будзем мець чаго сячы, а закон правільнай лясной гаспадаркі патрабуе, каб карыстаньне лесам было бязупынным.

Тут лесасека вылічваецца так. Пералічыўшы асобна колькі сьпелага лесу, дзеляць гэту плошчу на такі лік гадоў, колькі патрэбна, каб мог падасьпець у рубку сярэдня-ўзросны лес. Напрыклад, сьпелага лесу (у 80 гадоў) 45 дзес., сярэдня-ўзроснага (50 гадоў) 30 дзес. і маладога (20—40 гадоў) 25 дзес.—усего 100 дзес. Калі мы разьдзелім 45 дзес. на 30 (г. значыць мяркуем высеч увесь гэты лес у 30 гадоў), дык палучым 1,5 дзес. Пакуль мы высячам апошнюю дзялянку, як-раз сярэдня-ўзросны (50 г.) лес пярэйдзе ў сьпелы, плошча з-пад сьпелага лесу ў маладнякі і малады (20—40 г.) у сярэдня-ўзросны. Праз 30 гадоў, вядома, можна зноў пералічыць лесасеку.

Вось гэтыя меркаваньні зьяўляюцца галоўнымі пры складаньні плянаў лясное гаспадаркі пры лесаўпарадкаваньні.

Пасьля таго, як вылічан разьмер рубкі, трэба адзначыць у лесе самыя месцы рубак. Калі вучастак лесу невялікі, дык высечкі можна назначыць у адным месцы, а ў вялікім вучастку гэтага зрабіць нельга. На высечаным вучастку ў наступныя гады павінен пайсьці такі самы лес, які рос да высечкі яго. Калі-ж рубку згуртаваць у вадным месцы

і агаліць ад лесу значныя плошчы, дык яны возьмуцца травой, зьдзірванеюць і не дадуць укараняцца насеньню дрэў і ў выніку ня пойдзе лесааднаўленьне пажаданай пароды. Невялічкія вырубкі, каля якіх стаіць сьцяна дарослага лесу, хутка пакрываюцца лясным самасевам ад таго, што з дрэў суседняй сьцяны налятае на вырубку насеньне.

Вось таму ў хваёвых лясох лесасекі ўшыр трэба вызначаць вузкімі палоскамі—20—25 саж., а ўдоўж можна цераз увесь вучастак сьпелага лесу. З прычыны таго, што трэба застаўляць сьцены лесу, лесасекі адна ад аднэй павінны стаяць на адлегласьці 2—3 лесасекі.

Пры такім парадку лесасек, пакуль лесасека да лесасекі падойдзе, дык пройдзе 3 гады, за які тэрмін высечка зможа засемяніцца лесам.

Лесасекі трэба закладваць па даўжыні ўпоперак пануючым у данай мясцовасьці ветрам, бо калі мы адкрыем сьцяну лесу пад вецер, то ён паломіць і павыварочвае шмат дрэў, якія, росшы ў гушчары, мала прызвычайны да барацьбы з ветрам. Асабліва ветравальна елка, карэньне якой ня ідзе глыбока ў зямлю, а сьцелецца ў верхніх слаёх глебы. У нас на Беларусі пануючымі вятрамі зьяўляюцца заходнія, чаму першую лесасеку трэба закладаць з усходняга краю вучастку пры напрамку па даўжыні з поўначы на поўдзень.

Наогул трэба сказаць, што кіраваньне лесасек—справа ня зусім простая і таму трэба заўсёды зварочвацца за парадай да спэцыялістага—лясьнічага.

**М. Шалупенка.**

# Аб чым трэба пісаць у „Плуг“ у галіне лясной гаспадаркі.

Лясная гаспадарка ў агульным мае свой спэцыяльны характар і розьніцца ад іншых галін народнае гаспадаркі. Але лес у сыстэме народнай гаспадаркі займае першае месца.

Ня гледзячы на гэткае важнае значэньне лесу, паміж сялян яшчэ амаль што зусім не вядзецца актыўная праца па пашырэньню ведаў аб лесе. Праўда, дзякуючы часопісі „Плуг“ у мінулым годзе было зьмешчана 14 артыкулаў аб лесе. Але што гэта значыць з тым, што трэба ведаць аб лесе, і як ў ім весьці правільную гаспадарку.

У бягучым годзе „Плуг“ пачаў высьвятляць на сваіх старонках веды аб лесе больш шырока.

Як-жа трэба пісаць аб лясной гаспадарцы? „Плуг“—папулярная сялянская часопісь, дзе селянін прывык чытаць тое, з чаго-б ён мог мець карысьць.

Вось чаму ў галіне лясной гаспадаркі трэба даказваць эканомічную выгаду ашчэдных адносін да лесу, неабходнасьць захаваць яго на будучы час, ахоўваць ад вырубак, пажараў і г. д.

У залежнасьці ад мясцовых умоў трэба выдзеляць і падкрэсьліваць найбольш жыцьцёвыя пытаньні: у бязлесных мясцовасьцях, як і дзе ўзяць лесу; лес—крыніца заработкаў, лес—замацавацель пяскоў, равоў і г. д. Значэньне дравесных абсад па гарадох, мястэчках і вёсках; хваробы і хібы дрэва, лясныя промыслы і шмат іншых пытаньняў. Карысна дадаваць да артыкулаў належныя малюнкі і выразныя лічбы.

Трэба неадкладна пачынаць уздымаць цаліну—падымаць сьвядомасьць селяніна да лесу. Гэта—абавязак усіх лесаводаў, працуючых на Беларусі.

**Лесавод.**

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ.

## Больш увагі торфу.

Лясныя багацьці нашы з году ў год памяншаюцца. Гэткае становішча само па сабе выклікае думку аб неабходнасьці замены апалу другім якім небудзь матар'ялам, якога ў нас на Беларусі ёсьць даволі.

Што-ж гэта за матар'ял?—торф. Тарфяныя балоты цягнуцца ў нас на некалькі тысяч вёрст. Няма ніводнае вёскі, дзе-б паблізасьці ня было тарфянога балота. І сяляне мала па малу, зразумеўшы карыснасьць гэтага матар'ялу (торфу), як апалу, распачынаюць распрацоўку яго на апал. Арганізоўваюцца тарфяныя таварыствы, але справа гэтая да гэтага часу ідзе надта марудна. Прычына тут тое, што ў шмат якіх сельскіх мясцовасьцях няма збыту для торфу.

Паняволі тут у сялян арганізаваных для распрацоўкі торфу паўстае пытаньне: куды яго дзяваць. Сярод сялянства яшчэ ходзіць да гэтага часу думка аб тым, што быццам у простых сялянскіх печах нельга паліць торфам, што абавязкова для апалу торфам печы трэба пералажваць на нейкі іншы манер.

Чуткі гэтыя не адпавядаюць сапраўднасьці. Сухі торф у звычайных печах сялянскай хаты (рускіх і галянках) вельмі добра гарыць і перарабляць печы для гэтага саўсім ня трэба.

Але сялянства вельмі і вельмі туга распачынае ўжываць у сваёй гаспадарцы тарфяны апал, а гэта, вядома, складае вельмі кепскае становішча для разгортваньня тарфяных грамадзкіх распрацовак.

Мы заўважваем да гэта часу яшчэ у некаторых мясцох, што прадпрыемствы, знаходзячыеся непадалёку ад тарфараспрацовак самі ўжываюць на апал па старынцы дровы, не зварочваючы ніякай увагі на торф.

Вядома, такімі адносінамі да торфу і тарфараспрацовак торф не прасунеш у сялянскую хату. Тут трэба паказаць прыклад. Перш на перш трэба самім сябрам тарфяных таварыствах пры распрацоўцы торфу нават і ў ляснон мясцовасьці перайсьці цалкам на тарфяны апал, гэта паслужыць прыкладам ваколічнаму сялянству. Апрача таго бліжэйшым да тарфараспрацовак саўхозам, арцелям і іншым кооперацыйным арганізацыям увесьці ўжываньне торфу ў сябе, як правіла. У карыстаньні розных каапэрацыйных арганізацый ёсьць шмат дробных і даволі буйных прадпрыемстваў, якія карыстаюцца дравяным апалам. Іх таксама трэба перавесьці на тарфяны апал. А нашы установы, хаця-б сельсаветы? Там дзе магчыма яны ў першую чаргу павінны узяцца за торф. Толькі такім чынам можна давесьці на практыцы селяніну, што торф—карысная штука, што торф замяняе дравяны апал. Гледзячы на практычнае ўжываньне торфу як апалу і сялянін упэўнена пойдзе на гэта карыснае мерапрыемства.

Гэтым мы, папершае, зьберажэм лес свой, якога ў нас так небагата, ад зьнішчэньня і скарыстаем ня прыносячыя нам карысьці балоты, дамо магчымасьць шырока разгортвацца і расьці тарфяным каапэрацыйным арганізацыям, нойдзем збыт торфу.

Паменей слоў аб карысьці торфу, паболей практычных прыкладаў ужываньня яго як апалу.

**А. Забалотны.**

# Асушка і выраб балота.

Невялікія вучасткі гаспадар можа асушаць сам, без спэцыялістага. За асушку-ж вялікіх плошчаў без спэцыалістага лепш ня брацца, бо пры гэтым можна дарэмна страціць грошы і працу.

Пры асушцы балота трэба зьвяртаць увагу на тое, каб балота было асушана ў меру. Перасушаны тарфяны слой глебы траціць сваю глыбкаватасьць, дрэнна ўцягвае ў сябе вільгаць, робіцца як парашок і лёгка распыляецца ветрам.

Перасушанае балота ці сенажаць ня будзе даваць добрых ураджаяў, а паправіць гэта будзе вельмі трудна. Таксама дрэнна, калі балота мала асушана. Верхні слой глебы такога балота будзе занадта вільготны, перагніваньне торфу пойдзе павольна і расьліны будуць цярпець ад нястачы паветра. Пасьля вялікіх дажджоў на такім болоце вада стаіць доўгі час. Усё гэта можна паправіць правядзеньнем дадатковых канаў або паглыбленьнем старых.

Калі гаспадар мае невялікі вучастак балота і рашыў яго асушыць без дапамогі спэцыялістага, перш за ўсё ён павінен ведаць, адкуль на ім бярэцца вада. Пры гэтым можа быць некалькі выпадкаў, ад якіх і залежыць спосаб асушкі.

Калі балота ляжыць на беразе рэчкі, а вада ў ёй (рэчцы) стаіць высока, дык яна і падтапляе мясцовасьць. Вада ад рэчкі праходзіць у зямлю, а бывае, што і залівае яе паверхню і на гэтым месцы ўтвараецца балота. У такім выпадку частку вады з рэчкі трэба спусьціць, ад чаго ровень вады панізіцца і балота абсохне. Другі раз бывае, што толькі трэба прачысьціць рэчышча, калі яно занесена ілам і хламам.

Невялікія рэчкі вельмі часта маюць зьвілістае цячэньне. У зьвілінах бывае застой вады, чым тлумачыцца і забалочваньне берагоў. У такіх выпадках трэба выпрастаць (выпраміць рэчышча. Для гэтага капаюць простую глыбокую канаву папярок усяго зьвілістага месца.

Калі балота ляжыць у нізіне паміж узгоркамі, тут ўтварылася балота ад сьцякаючай з узгоркаў вады, то на тым месцы, дзе пачынаецца пад'ём узгорка з нізіны, капаюць канаву. Гэту канаву вядуць навакол усяго балота і выводзяць куды-небудзь паміж узгоркамі. Для асушкі нізіны капаюць на ёй некалькі канаў, накіроўваючы іх ў адну галоўную, па якой вада сьцякае з балота.

Часьцей усяго балоты бываюць на роўных месцах, дзе зусім няма стоку для асеньняй вады. Перш, чым капаць канавы на такім балоце, трэба намеціць хоць-бы нязначныя стокі (рабіць гэта трэба вясною, калі бывае шмат сьнегавой вады), але на вялікіх плошчах без спэцыялістага зрабіць гэта цяжка.

Калі галоўны сток вады намечаны, то па ім капаюць галоўную адводную канаву, у якую праводзяць бакавыя канавы адну ад другой сажняў на 12—15, у залежнасьці ад вільготнасьці балота. Пры капаньні канаў трэба трымацца гэткіх правіл:

1. Усе канавы не павінны мець крутых паваротаў. У такім выпадку берагі канавы размываюцца.

2. Бакавыя канавы трэба выводзіць у галоўную заўсёды наўскос. Калі-ж бакавая канава праведзена ў галоўную проста, дык галоўная канава супруоць вусьця бакавай размываецца.

3. Спачатку капаецца голоўная канава, якую пачыняюць з самага нізкага месца, бо тады вада будзе сьцякаць і ня будзе перашкаджаць працы.

4. Выкінутую з канавы зямлю ня трэба складваць каля яе валам, а зараз-жа разскідваць на балоце, або засыпаць ёю блізкія ямы.

Праведзеные канавы трэба кожны год вясною прачышчаць і глядзець, каб вада магла свабодна цячы па іх.

Балота або сенажаць можна яшчэ асушваць і „дрэнажом“. Пры гэтым ў выкапаную канаву кладуць зьвязанныя доўгія пучкі хворосту ці спэцыяльна зробленыя дзеля гэтага гліняныя трубы; можна класьці дошкі і г. д. і канаву і зноў засыпаць зямлёю.

*Выраб балота.* Першае, што трэба памятаць пры асушцы балота, гэта не чакаць адразу пасьля асушкі вялікіх ўраджаяў траў. Часьцей за ўсё ўраджаі балотных траў пасьля асушкі зьмяншаюцца. Гэта і зразумела, бо балотныя травы—асокі, пушыцы і інш. пачынаюць прападаць і пройдзе некалькі год, пакуль вецер нанясе на балота насеньня добрых траў, якія тут і пачнуць расьці. Лепш асушнае месца хутчэй вырабіць і ўгноіць, бо толькі пры такім спосабу вырабу балота гаспадар зможа хутчэй вярнуць страты па асушцы балота.

Калі асушанае балота знаходзіцца недалёка ад сялібы, дык на ім можна зрабіць гарод з вялікім посьпехам. Балотная глеба для гародніны лічыцца добрай, асабліва для капусты. Але, каб мець добры гарод, трэба балотную глебу добра ўгноіць.

Лепш-жа на балотах рабіць сенажаць. Каб атрымаць з балота добрую сенажаць, трэба гады 2—4 сеяць на ім авёс, выка-аўсяную мешаніну, а таксама кораньплоды; можна пакідаць балота і пад чорны папар. Гэтыя расьліны сеюць на балоце дзеля таго, каб добра распрацаваць дзёран, даць яму добра перагнісьці і праветрыцца.

Зараз пасьля асушкі, калі балота абсохне так, што па ім можа хадзіць жывёла, пачынаюць яго вырабляць. Перш усяго трэба ачысьціць балота ад кустоў, зарасьнікаў, а таксама ад пнёў, калі яны ёсьць на балоце. Далей зьністажаюць купіны, засыпаюць ямы і наогул раўняюць балота, каб у далейшым ня было застоя вады.

Сьпілаваныя на балоце дрэвы могуць быць скарыстаны на апал, а сукі, карэньні, кусты і інш. зьбіраюць на месцы ў кучы. Вясной пакуль яшчэ балота ня зусім высахла, гэтыя кучы спальваюць, а попел раськідаюць на балоце, як угнаеньне.

Пасьля такога вырабу балота, пачынаюць грунтоўны выраб яго, які можна рабіць двумя спосабамі: *1) адразу ўзорваюць балота на поўную глыбіню і 2) у першы год павярхоўна ўспульхніваюць глебу.* На ўспульхненай баронамі балотнай глебе вясной сеюць авёс або выка-аўсяную мешаніну. Ураджаі ў такім выпадку бываюць сярэднія і аплачваюць страты на выраб і пасеў.

Акрамя таго, паверхня балота робіцца яшчэ раўнейшай, дзярніна становіцца пульхнай, што палягчае наступную асеньнюю ўзорку. Калі дзярніна бывае вельмі цьвёрдая і няма як бараной надраць пульхнага слою, што патрэбна для пасеву насеньня, дык такое балота ўзорваюць.

Пры ўзорваньні галоўную увагу трэба зьвяртаць на правільнае адвальваньне і поўнае пераварачваньне пласта дзёранам уніз, бо толькі тады дзярніна добра перапрэе. За тым, для першай узоркі балота трэба карыстацца плугам, які мае вінтавы адвал (адкладню). Плугі якія драбяць скібы, тут ня годны, бо незакрытая імі дзярніна, потым

прарастае. Лепш пры распрацоўцы балота карыстацца спэцыяльнымі балотнымі плугамі, якія можна атрымаць на бліжэйшым пракатным пункце. Гэтыя плугі маюць прыладу для бакавога запраганьня коняй, чаму плуг можна паставіць у працы так, што запрэжаныя двое коняй будуць ісьці па неўзаранай дзярніне поплеч з баразной.

Балота лепш узворваць увосень. Узаранае балота застаецца да вясны без ўсякага вырабу. Праляжаўшы ўсю зіму, дзярніна перагнівае і вясною лёгка барануецца. Вясною, як толькі балота прасохне, распрацоўваюць пласты раней удоўж, а потым упоперак рэжучымі баранамі (культыватарамі). Можна таксама скародзіць і цяжкімі жалезнымі баронамі, але яны выварачваюць дзярніну і распыляюць глебу. Закрываць угнаеньне і насеньне можна таксама культыватарамі. Пасьля засеву карысна і нават патрэбна балота прыкатаць, ад чаго бывае добры ўраджай, бо ад пераворкі і баранаваньня, верхні пахатны слой болота робіцца вельмі пульхным і карэньні расьлін у ім дрэнна растуць. Акрамя таго, верхні пульхны слой перастае цягнуць ваду з больш глыбокіх слаёў балота, ад чаго пасеў пры адсутнасьці дажджу засыхае. Таксама верхні слой торфу дрэнна затрымоўвае дажджавую ваду, хутка прапушчаючы яе праз сябе. Разам з дажджавою вадою ў глыб балота праходзяць і тыя пажыўныя матэрыі, якія мы палажылі з угнаеньнем. Калі-ж верхні слой распрацаванага балота будзе прыкатаны, ды у ім моцна будуць трымацца карэньні, ён лёгка будзе цягнуць ваду з ніжніх слаёў балота і затрымоваць угнаеньне. Прыкатваць балота трэба асабліва ў сухія гады і на больш тарфяністым балоце.

Прыкатваюць балота вальцам (цяжкім і гладкім). Калі няма фабрычных вальцаў, дык можна прыкатваць балота драўляным вальцам, прыладзіўшы на ім дошку і груз.

**А. Берзін.**

---

# Сяляне, ідзіце па прыкладу Кастрычнікавага мэліорацыйнага т-ва.

Вядома ўсім, што ў нашай Беларусі шмат ёсьць балот, якія ня прыносяць карысьці ні сялянству, ні дзяржаве.

А вядома з навукі і вопытаў, што ў нашых балотах ёсьць вялікае схованае багацьце, якое толькі можна найці праз асушку балот дзяржавай і сялянствам. К прыкладу возьмем хаця-б наш Жлобінскі раён, які на сваім абшары мае шмат балот і якія ня прыносяць ніякай карысьці нашым сялянам, бо на іх нельга зайці і чалавеку.

Але цяпер Савецкая Улада праз навуку і тэхніку пачала дапамагаць нашым сялянам у скарыстаньні балот. Так, у 1923 г. з дапамогаю тэхнікаў у Жлобінскім р. арганізавалася адно мэліорацыйнае т-ва пад назваю „Кастрычнікавае“, якое па актыўнасьці сялян і шырыні працы дабілася таго, што з такога балота, на якім раней нельга было прайці чалавеку, зрабіла поле і сенажаць, пасеяла збожжа і мешаніны траў. Усё гэта служыць прыкладам і ўсяму нашаму раёну.

На акруговай с.-г. выстаўцы ў 1926 г. за добрыя экспонаты наша т-ва атрымала ў прэмію трактар „Фордзон“ на суму 2000 руб.

Па прыкладу гэтага т-ва ў нашым раёне ў 1926 годзе таксама арганізавалася яшчэ адно т-ва пры Кароткавіцкім с.-с., у якое ўвахо-

дзіць вельмі шмаг кепскіх балот. Я спадзяюся, што і яно сваёй актыўнасьцю і з дапамогаю дзяржавы праз тэхніку і навуку, зробіць такую-ж сенажаць і поле, якое маем мы ў Кастрычнікавым т-ве. Таксама трэба ўзяцца за працу і в. Кіцін Парыцкага р., бо яе вялікае балота ляжыць упоруч з балотам Кастрычнікавага т-ва. У гэтым балоце таксама схавана багацьце, з якога можна зрабіць добрую сенажаць і поле.

Дык вось, сяляне Жлобінскага раёну і ўсёй Бабруйскай акругі, вазьмецеся за працу над сваімі балотамі і вы атрымаеце ад іх вялікую карысьць.

Праца пачынаецца з арганізацыі мэліорацыйнага т-ва па асушцы балота. Тут дапаможа вам тэхніка і наша дзяржава.

Сел. Ї. **Карунчык**

---

# С.-Х. ХРОНИКА.

## Хадакі ў Сібір з Беларусі ў бягучым годзе.

З 15-га сакавіка гэтага году на 1 мая з Беларусі прайшло 852 хадакі ад 28.138 чалавек. Найбольш хадакоў (Больш за 100) было з Барысаўскае, Віцебскае, Гомельскае (134) і Магілеўскае акруг.

Большая частка ішло ў Сібір—705 чалавек; ва Уральскую вобласьць 63, на Далёкі Усход—84.

Беларусі адпушчана зямлі ў Сібіры 19.000 душавых доляй, ва
Уральскай вобласьці—5.500
на Далёкім Усходзе—3.493

Усе зямельныя фонды адпушчаныя для Беларусі ў Сібіры і на Далёкім Усходзе ўжо разьмяркованы. Застаюцца свабоднымі толькі па Уральскай вобласьці на 60 проц., гэта значыць, свабодна яшчэ большая палавіна зямлі.

Але лічбы адносна хадакоў у Сібір і на Далёкі Усход трэба лічыць прыблізнымі, бо частка перасяленцаў, якія накіраваліся ў Сібір пойдзе на Далёкі Усход.

Упаўнаважаны па перасяленьню **П. Бойка.**

**Інкубатары для птушкаводных таварыстваў**. Закуплена і прывезена ў БССР 8 шт. інкубатараў на 200 яец кожны. Інкубатары ўжо разьмяркованы паміж птушкаводнымі т-вамі ў акругах.

---

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Як пазнаць пладавітую сьвіньню.

Каб выбраць пладавітую сьвіньню на племя, трэба перш зьвярнуць увагу на яе рост. Сьвіньня павінна быць доўгая і тоўстая, каб у ёй магло зьмясьціцца да 12 парасят. Звычайна нізкія сьвіньні мала пладавіты. Вузкая сьпіна з косымі рэбрамі лепш, як плоская. Яшчэ лепш, калі сьпіна сьвіньні трохі выпуклая. Сьвіньні з цяжкім круглым шкілетам мала пладавіты. У пладавітай сьвіньні добра заметна вымя і разьвіты саскі, але ня вельмі блізка адзін ад другога. Тоўстая скура і тоўсты хвост у сьвіньні—ня добрыя адзнакі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на галаву. Галава павінна быць вялікай. Сьвіней з вузкай і плоскай галавою на племя пускаць ня



Мешанцы мясцовых і ангельскіх сьвіней мяснога адкорму на бульбе і здыманым малаке. *(Мен. Дась. Ст.).*

варта. Важна, як зложаны і вушы. Маленькія стаячыя вушы паказваюць, што сьвіньні баязьлівыя, непакойныя. Вялікія вушы паказваюць, што сьвіньні вялыя. На племя трэба выбіраць сьвіней з вялікімі спакойнымі вушыма, якія паміж сабою ствараюць вугол. Такая матка будзе самая пладавітая.

Л.

# Як зрабіць добрае сьметанковае масла.

Я не зраблю памылкі, калі скажу, што ў сьметанковым масьле, як у люстэрку, адбіваецца гаспадар, гаспадыня і ўся гаспадарка наогул.

У гэтым артыкуле я і хачу разабраць розныя выпадкі з сваёй практыкі, каб выявіць, якія умовы неабходны дзеля атрыманьня добрага сьметанковага масла, і якія прычыны ствараюць дрэннае масла.

Добрае масла павінна быць сьвежым, салодкім, пахучым, мець натуральна жоўты колер, ня крышыцца ня прыставаць да нажа. Пасьля ўжываньня яго не павінна заставацца няпрыемнага смаку ў роце, як, пасьля замнога зьедзенага сьвінога сала. Добра спрэсаванае масла не павінна мець дзірак, павінна лёгка намазвацца на хлеб, але ня так, як сьмятана.

Мяккае масла мае занадта бліскучую паверхню і ад яго застаецца ўражаньне быццам увесь рот абклеіваецца маслам.

Каб масла было сьвежым, трэба старацца захаваць малако ад забруджаньня пры даеньні кароў і пры перагонцы на сэпаратары. Пераганяць яго найлепш зараз пасьля даеньня, а пры немагчымасьці можна зрабіць гэта і праз суткі і пераганяць ужо зноў падагрэтае. Захоўваць малако трэба ў вёдрах з белай бляхі ў прахладным месцы. За суткі перад зьбіваньнем, вяршкі ад перагонкі малака трэба ўнесьці ў пакой, каб яны ўсталіся і сталі аднолькавы па ўсёй масе; праз 4 гадзіны іх трэба глыбока памяшаць вялікай лыжкай. Масла зьбітае з гэтакіх вяршкоў будзе і сьвежае і трывалае, яго можна пратрымаць да двух тыдняў і яно ня зьменіцца па ўсёй масе. Масла з вяршкоў, сабраных у працягу трох дзён, і сьвяжыню сваю захоўвае ня больш трох дзён.

Калі паветра ў памяшканьні, дзе стаіць масла або вяршкі, ня будзе сьвежым і чыстым, дык дрэнны пах з яго можа перайсьці і на масла. Таксама няпрыемны пах масла залежыць і ад харчоў, якія ўжывае скаціна. Калі жывёла корміцца прэлым кормам: сапсаваным цьвілым, сапрэўшым ці гнілым сенам або саломай, масла ня будзе такім сьвежым. Ад гніеньня подсьцілу ў паветры зьяўляецца аміяк, які праз лёгкія таксама пападае ў кроў, а з крыві ў малако і масла. Усё гэта зьнікае пры частым падсьціланьні і праветрываньні хлева.

Харчаваньне каровы таксама мае уплыў на сьвежасьць масла. Так, напрыклад, караньплоды, якія ўзрасьлі на пескавой глебе, даюць лепшае малако, чым узросшыя на падзолістай глебе.

Занадта ўгноеная глеба таксама дрэнна ўплывае на пажыўнасьць караньплодаў. У гэтым напрамку маюць значэньне нават сарты караньплодаў: бручка, а ня турнэпс, буракі, а ня рэдзька, нават бульба пасаджаная ў нізіне ў вільготны год будзе мець уплыў на масла ў горшы бок, чым бульба ўзросшая на ўзгорку. Ад каровы харчаванай сенам масла будзе саладзейшым, чым ад каровы харчаванай саломай.

Масла добрага колеру дасягае пры кармленьні каровы зялёнай травой з жоўценькімі кветкамі, добрым сенам і караньплодамі і іх бацьвіньнем. Ад морквы „чэмпіон“ колер масла лепшы, чым з морквы другіх сартоў. Салома і бульба надаюць маслу белы колер.

Добры пах масла дасягаецца выключна пахучым сенам. Наогулжа пахучае масла сустракаецца ў нас рэдка. Жырным масла будзе, калі карміць карову макухай (ня больш 4 фун. на дзень), вотруб‘ём, караньплодамі і канюшынай.

Шчыльнасьць масла дасягаецца прытрымоўваньнем такіх правілаў: кармленьнем па нормах і захоўваньнем вяршкоў малака ў прахладным месцы. Але трэба ўявіць сабе і тэмпэратуру, пры якой пачынаюць зьбівацца вяршкі. Калі карова корміцца больш саломай і бульбай, дык тэмпэратура павінна быць больш высокай, калі пераважаюць кораньплоды, макуха і сена—тэмпэратура паніжаецца да 10-14°. Улетку тэмпэратура павінна быць ніжэй, зімоваю парой вышэй; у цёплым пакоі ніжэй, у халодным вышэй.

На шчыльнасьць масла робіць уплыў яшчэ і гэткае здарэньне. Калі зьмешваць малако цельнай каровы і нядаўна ацяліўшайся, дык ніколі ні атрымаеш добрага масла. Гэта тлумачыцца тым, што ў малаку цельнае каровы мала жыру, а больш тварагу. Хаця ў канцы дойнага пэрыяду малако і жырнейшае, чым пасьля ацёлу, але і тварагу ў ім больш. Вось гэта і робіць тое, што масла крышыцца і прыстае да нажа.

Калі карове даецца занадта многа макухі, дык масла можа мець прысмак ільнянога масла. Такое масла будзе мяккае і для яго цяжка выявіць тэмпэратуру зьбіваньня. Падняць тэмпэратуру высока саб'ецца за 15 мінут, спусьціць нізка—б'ецца $1^1/_2$ гадзіны, тады як натуральна масла павінна зьбівацца за 30-45 мін. Калі масла зьбівалася доўга і вышла занадта цьвёрдым, дык другі раз трэба тэмпэратуру падняць.

Калі маслабойка будзе занадта поўна, то масла будзе зьбівацца вельмі доўга і будзе цьвярдым, калі за мала—саб'ецца вельмі скора і масла будзе мяккім.

Большы процант жыру ў вяршкох дапамагае хутчэйшаму зьбіваньню масла. Пры рэдкіх вяршкох масла трэба зьбіваць даўжэй, а таму вяршкі трэба браць такія, каб у іх было на 30% жыру. Каб атрымаць такі процант жыру, неабходна ўстанавіць сэпаратар так, каб сем вёдзер малака далі 6 вёдзер перагону і 1 вядро вяршкоў, што складае каля 15% са ўсёй колькасьці малака. Сел. **М. Зьвераў**.



Мешанцы пасьля адкорму на мяса. *(Менск. Дасьл. Ст.)*.

# Што дало паказальнае кармленьне кароў сялянам вёскі Бярэзіна.

Усякі ведае, што калі карміць карову, каня і іншую жывёлу дрэнным кормам, дык і карысьці будзе мала; напрыклад малочная карова пры кепскім кармленьні дае мала малака, рабочы конь робіцца нядужым і мала працуе.

Жывёлу трэба карміць так, каб яна ня толькі магла жыць, але давала ў большай колькасьці і тыя прадукты, з-за якіх яна трымаецца. Словы „добра карміць жывёлу" не значаць, што яе трэба перакармліваць альбо закармліваць.

Селянін часта думае, што добрае кармленьне кароў будзе ў тым, каб карове даваць як мага больш корму і зусім ня лічыцца з яе вагою і колькасьцю малака, якое карова дае. Дзеля таго, каб паказаць сялянам на справе, што скаціну ні ў якім разе нельга не дакармліваць, а таксама і залішняе карміць, у вёсцы Бярэзіна Бягомальскага раёну было праведзена паказальнае кармленьне кароў. Дзеля гэтага сяляне самі выбралі каровы ва ўзросьце ад 3-ха да 9 гадоў і ад 2-х да 3-х тыдняў пасьля ацёлу.

Жывая вага кожнай каровы наступная:

| Нумар кароў | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|
| Вага ў пуд. | 18,5 | 17,5 | 19 | 20 |

Кармленьне было падзелена на два пэрыяды—кантрольны з 23-га па 31 студзеня і паказаны з 31 студзеня па 8 лютага.

Умовы ўтрыманьня кароў у час кантрольнага кармленьня былі такія: каровы былі застаўлены ў старых хлявох, без уцяпленьня і вакон. У корм давалася: салома, сярэдняе лугавое сена, мякіна, бульба і высеўкі.

Каровам корм даваўся так:

| | Саломы | Сена | Мякіны | Бульбы | Высевак | Удой |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Карове № 1 | 4 ф. | 20 ф. | 6 ф. | — | — | $7^1/_2$ ф. |
| „ № 2 | 2 „ | 20 „ | — | 4 ф. | $^1/_2$ ф. | 11 „ |
| „ № 3 | 8 „ | 20 „ | — | — | — | 8 „ |
| „ № 4 | 4 „ | 26 „ | — | — | — | 7,5 „ |

Дзеля таго, каб паказаць розьніцу удояў ад палепшаных умоў утрыманьня і правільнага кармленьня, было праведзена уцяпленьне хлявоў (пазатыканы ўсе шчыліны пакляй), былі ўстаўлены вокны разьмерам 16×8 вярш. Для столі былі насланы на бэлькі жэрдкі і зьверху іх пакладзена салома да самай страхі. Дзьверы былі абіты саломенымі матамі. Усё гэта патрабавала вельмі малых сродкаў і часу, але цяпер скаціна патрабавала ўжо менш корму, а удоі сталі значна павялічвацца, што відаць з наступных лічбаў:

| Давалі | Саломы | Сена | Бульбы | Макухі | Удой |
|---|---|---|---|---|---|
| Карове № 1 | 1 ф. | 12 ф. | 8 ф. | 3 ф. | 10 ф. |
| „ № 2 | 4 „ | 12 „ | 16 „ | 3 „ | 12 „ |
| „ № 3 | 3 „ | 13 „ | 10 „ | 3 „ | 12 „ |
| „ № 4 | 2 „ | 14 „ | 4 „ | 3 „ | 10,5 ф. |

Калі цяпер мы параўнаем удоі, пры паказальным кармленьні з удоямі кароў пры сялянскім спосабе ўтрыманьня, дык знойдзем, што кожная карова павялічыла удой.

| Нумар каровы | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|
| Прыбаўка удою | +2,5 ф. | +4 ф. | +4 ф. | +3 ф. |

Гэткая прыбаўка ва удоях кароў была палучана ў 4 дні паказальнага кармленьня, а далей былі прыбаўлены высеўкі, якія ў першыя 4 дні паказальнога кармленьня каровам не даваліся і такая вельмі малая прыбаўка высевак значна павысіла удоі. Так, прыбаўкі малака ад высевак і макухі былі наступныя:

| | Макухі | Высеўкі | Удоі 4 лютага | Удоі 8 лютага |
|---|---|---|---|---|
| Карова № 1 | 4 ф. | 1-2 ф. | 10 ф. | 15 ф. |
| „ № 2 | 4,5 ф. | 2-3 „ | 12 „ | 16 „ |
| „ № 3 | 3,5 „ | 2-3 „ | 12 „ | 20 „ |
| „ № 4 | 3,5 „ | 4-5 „ | 10,5 „ | 14 „ |

Вынікам з усяго гэтага зьяўляецца тое, што дзеля правільнага скарыстаньня корму трэба даваць яго па жывой вазе каровы і удою малака.

Сяляне вёскі Бярэзіна гэта ўбачылі на сваіх каровах і пачалі ўцяпляць хлявы, будаваць кармушкі і карміць кароў па нормах.

Агр. С. Багдашыч.

(в. Бягомаль, Менск. акр.).

---

# У хляве павінна быць суха і чыста.

У многіх сялян хлявы для скаціны ў вялікім беспарадку. Калі загоняць скаціну ў хлеў, дык аж па шкуры холад ідзе: там мокра, гразь і няроўна. У такім неагледжаным хлеве стаяць каровы. Я шмат ведаю такіх гаспадароў. Вось чакай ад каровы, каб яна дала малака, калі яна ў хлеве мучыцца і купаецца ў гразі.

Чалавек жывы любіць догляд і чыстату, жывёла таксама—жывое стварэньне і яна павінна быць у доглядзе і чыстаце.

Ад макраты ў кароў часта прэюць ногі і можа зьявіцца хвароба—макрэц (на нагах зьяўляюцца болькі). Другое, калі ў хляве няроўны гной, дык карова можа заваліцца ў яму, ня ўстаць і задушыцца асабліва ў час цяленьня. Такія здарэньні, я думаю, шмат каму вядомы.

Кожны гаспадар павінен клапаціцца, каб яго карова стаяла ў сухім і чыстым месцы, а гной заўсёды павінен быць роўным. Працы на гэта шмат ня трэба. Параўнаваць гной можна хутка. Падаслаць скаціну таксама малая справа. Толькі можа ў некаторага гаспадара няма подсьцілу, дык я лічу, што ён дрэнны гаспадар, калі ня можа прыдабыць подсьцілу. Зімою можна паехаць на мёрзлае балота і там накасіць старой травы або накапаць торфу, добра яго прамарозіць, а вясною і летам ужываць на подсьціл. Таксама можна загадзя сабраць у лесе лісьця і г. д.

Трэба заўважыць, што карова прыбавіць малака ня толькі ад корму, але і ад догляду.

Трымайце кароў у чыстым і сухім хлеве. Сел. Б. З.

(Сьмілавіцкі раён).

# Абманы гандляроў коньмі.

У некаторых коняй бываюць вялікія і няпрыгожыя, так званыя асьліныя вушы. Каб іх паменшыць, гандляры абразаюць краі, а шэрсьць расчэсваюць і разраўноўваюць.

Вісячыя альбо шырока растаўленыя вушы папраўляюць, і вырэзваючы кусок шкуркі паміж вушэй, а потым сшываюць яе. Пасьля гэтага вушы падымаюцца альбо зьбліжаюцца і прымаюць нормальны від, але яны робяцца нярухомымі, што адбіваецца на слуху каня. Пазнаць гэта лёгка па рубцы між вушэй.

Гэтай самай мэты гандляры дасягаюць яшчэ спэцыяльна зробленай аброцьцю, якая падпірае кончыкі вушэй. Часамі няпрыгожа растаўленыя вушы, проста сьцягваюць дроцікам.

Грыву таксама падрабляюць: робяць курчаваю, падстрыгаюць, па троху вырываюць, жадаючы зрабіць каня харашэйшым альбо падагнаць пад якую-небудзь пароду.

Хвост падрэзваюць, каб больш выдаваўся круп і конь здаваўся-б здаравейшым.

Бываюць такія здарэньні, што ў коняй з хранічнымі хваробамі стаіць лахматая шэрсьць, тады гандляры змываюць яе цёплаю вадою з мылам і змазваюць расьлінным маслам. Значыць, і на шэрсьць трэба зьвяртаць увагу.

Рост каня таксама падрабляюць, дзеля гэтага коняй куюць тоўстымі падковамі на высокіх шыпах, задзіраюць каню высока галаву і шыю, стараюцца ставіць перад вышэй зада, а з боку ставяць малога і шчуплага каня.

Муштроўкаю гандляры робяць старых і вялых коняй вясёлымі.

Калі здараецца гандляру прадаваць каня з адвіслым сьвіным жыватом, дык ён прадае яго галодным і няпоеным, як гэта будзе кабыла, дык ён называе яе жарэбнай.

Тонкіх-жа і падгалістых коняй напярэдадні прадажы шмат кормяць, пояць салёнаю аўсянаю баўтухаю, кормяць нават печаным хлебам і прыбаўляюць к яму серку, вапну, соль.

У коняй, якія слабы на пярэднія ногі, часта бываюць зьбітыя калені і месца раны зарастаюць белаю шэрсьцю; тады гандляры тлумачаць гэта звычайным ударам. Пры казінцы (выгіб кален уперад— вялікі парок), які сьведчыць аб слабасьці ног, гандляр муштруе каня, не дае яму спакойна стаяць. Але казінец лёгка пазнаць у каня пасьля праездкі, тады ногі яго будуць абавязкова дрыгаць.

Макрэц—гэта хвароба, пры якой загніваецца задняя частка бабкі. Але гандляры і гэта ўмеюць падрабіць: ня стрыгуць шчотак, вопухаль зьмягчаюць жырам, струпы зьдзіраюць і больку прыпальваюць квасцамі, а сьлед тлумачаць тым, што конь повадам сьцёр.

Сьвішч (запаленьне храстка ў сярэдзіне капыта) таксама хаваюць, а дзірку, праз якую ідзе бруд, замазваюць воскам; кульганьне-ж тлумачаць закоўкаю.

Пры загніваньні стрэлкі капыта (цяжкая і трудна лячымая хвароба) гандляры таксама ня тужаць. Яны куюць такога каня падковамі з доўгімі шыпамі, а стрэлкі замазваюць гразьзю, дабавіўшы туды чаго-небудзь пахучага, каб ня чутно было смуроду.

Вось тыя кароткія веды, якія павінен памятаць кожны селянін пры куплі каня ў гандляроў.

**М. Сянчук.**

# Чым хварэюць куры і як іх лячыць.

У кожнай гаспадарцы, дзе трымаюцца куры найбольшую страту прыносяць заразьлівыя хваробы.

Заразьлівымі хваробамі называюць тыя, што выклікаюцца вельмі малымі арганізмамі—мікробамі. Гэтыя мікробы, папаўшы ў арганізм курыцы хутка там множацца і выклікаюць тую альбо іншую хваробу. Зародкі іх выходзяць з памётам птушкі ці макратою. Да заразьлівых хвароб кур, належаць наступныя:

*Дыфтэрыт.* Азнакі: птушка становіцца нуднай, страчвае апэтыт, сядзіць з апушчанымі крыльлямі і цяжка дыша з адкрытай дзюбкай. Грэбень і барадаўка марнеюць, становяцца сухімі і гарачымі. Пры аглядзе роту і горла можна заўважыць плёнкі, па ўдаленьні якіх застаюцца крывавістыя месцы. У птушкі зьяўляюцца сьвісьцячыя хрыпы, дыханьне ўтрудняецца і птушка прападае ад задушэньня.

Лячэньне: рот і глотку трэба змазваць растворам крэаліна ці лізола 2% альбо мешанінай ёду з гліцэрынай (1 : 2), унутр даюць 2% раствору таніна па чайнай лыжцы 3 разы ў дзень; 1-2 разы ў суткі робяць удыханьне дзёгцярнага пару.

*Халера.* Азнакі: здаровыя на від куры раптам становяцца нуднымі, апэтыт страчваецца, зьяўляецца дрыготка, цяжкая паходка, крыльля апушчаны. З роту і носу цячэ сьлізь, спачатку бела-жоўтага колеру, а потым зялёнага з няпрыемным пахам. Грэбень сінее і паступова пераходзіць у фіалетавы, зьяўляюцца сударагі, ў час якіх і наступае сьмерць. Працяжнасьць хваробы ад некалькіх гадзін да 2-3 дзён.

Лячэньне: унутр даюць саляную кіслату—1% раствор па 1 сталовай лыжцы ў дзень. Таму, што гэта хвароба прычыняе вялікія страты сярод курэй, дык пры зьяўленьні яе здаровым птушкам трэба зрабіць забясьчваючыя *прышчэпкі*, а захварэўшых лепш усяго забіць, пакуль не заразіліся астатнія; трупы іх трэба спаліць ці закапаць глыбока ў зямлю. У птушніках-жа і дварох трэба зрабіць дэзынфэкцыю.

*Сухоты.* Гэта даволі распаўсюджаная хвароба сярод курэй, дзе ўтрыманьне і догляд іх не здавальняючыя. Захварэўшая курыца пачынае бяз прычыны кульгаць. Апэтыт нормальны і нават павялічаны, але птушка відочна мізарнее, ня гуляе і забіраецца ў цёмныя месцы. Грэбень і сьлізістыя абалонкі становяцца бледнымі; зьяўляецца пранос, пасьля чаго птушка страчвае апэтыт і прападае.

Лячэньня пры гэтай хваробе няма. Ляпей хворую птушку забіць і тым самым забясьпечыць іншых ад захварэньня. Неабходна пры гэтым зрабіць дэзынфэкцыю птушніка і двара.

*Галоўныя меры барацьбы з заразай.* Галоўнай умовай барацьбы з заразнымі хваробамі зьяўляецца недапушчэньне распаўсюджваньня іх. Гэта дасягаецца: 1) поўным аддзяленьнем хворай птушкі ад здаровай, 2) аддзяленьнем падазроных, або такіх птушак, якія хоць і здаровыя, але знаходзіліся ў адным памяшканьні з захварэўшымі—ня менш, як на 10 дзён і 3) дэзынфэкцыяй птушніка і двара, дзе хадзіла хворая птушка.

Вэтурач **М. Жарын.**

# САДОЎНІЦТВА

## Пладовы асортымэнт Мазыршчыны.

*Штэцін чырвоны.* Гэты сорт яблынь зьявіўся ў мяне ад палучанага зразка з Кіева ад Крыстэра; зразок прышчапіў я ў карону старога дрэва антонаўкі. Праз 4-5 гадоў былі палучаны першыя плады штэціна, якія былі захаваны на паліцы ў склепе для апрабаваньня.

Плады Штэціна чырвонага захоуваліся добра і ляжалі даўжэй, чым Бойкэн, [1]) пры аднолькавых умовах захоўваньня. Пры захоўваньні плады не загніваліся і не псаваліся і тады, калі былі зьняты з дрэва ня сьпелымі. У адлічча ад некаторых зімовых сартоў яны зусім ня вянуць нават, калі зьняты з дрэва раней чым гэта трэба.

Плады Штэціна аднаразьмерныя, вышэй сярэдняе велічыні, круглыя некалькі кадушкавіднае формы, цёмна-чырвонага колеру, з вельмі шчыльнаю салодкаю мякацьцю, якая, калі высьпее, робіцца сакавітаю і таючай.

Штэцін чырвоны—гэта познazімовы, вельмі смачны. Дрэва ў адносінах да холаду і цеплаты трывалае. У росьце і афарбоўцы пладоў ня было заўважана розьніцы пры умовах спрыяючага і няспрыяючага лета. Дрэва расьце хутка ўверх. Карона круглая, сучча адрастаюць правільна і ня ломяцца. Першы ўраджай дае на 5-6 годзе, а поўнага пладанашэньня дасягае ў 12-13 гадоў. Вясною дрэва распускаецца позна, а ў восень лісьця ападаюць сваечасова. Штэцін чырвоны мае вялікае прамысловае значэньне.

*Ігруша Міністр Люціўс.* У 1908 годзе мною былі выпісаны зрэзкі ігрушы „Міністр Люціўс“ з Кіева ад Крыстэра. Частка зразкоў была прышчэплена ў карону старога пладовага дрэва ігрушы, а частка ў шыйку ігрушавай дзічкі.

Усе прышчэпкі Міністр Люціўс вельмі добра расьлі і былі трывалы ў адносінах да холаду. Зразкі прышчэпленьня ў карону пачалі пладаносіць на 4-м годзе, а прышчэпленыя ў шыйку дзічкі на 7 годзе. Плады былі вельмі вялікія (больш як фунт), аднастайныя, ігрушавіднае формы, зялёнага колеру. Вісяць яны на доўгіх пладаносках, чаму вельмі мала зьбіваюцца ветрам. Плады на дрэве не высьпеваюць, за выключэньнем таго году, калі бывае раньняя вясна і спрыючае лета. Трымаюцца на дрэве плады да 15-га кастрычніка; пры захоўваньні плады набываюць зялёна-масьлена-белы колер з раскінутымі па ўсёй ігрушы маленькімі прасьвечваючымі зялёнымі кропкамі. Мякаць белая, шчыльная, якая пры пасьпеваньні робіцца таючай, сакавітай і вельмі смачнай. Плады не захоўваюцца больш 2 м-цаў пры тэмпэратуры 5-10° цяплыні.

---

[1]) Глядзі „Плуг“ № 3—1927 г. Стар 35.

Псавацца пачынаюць ад насеньня. Сьпелыя плады пры паказанай тэмпэратуры захоўваюцца ад 20 да 30 дзён.

Дрэва вельмі здаровае, форма кароны не аднолькавая. Аднагадовыя паросткі сьветлыя, тоўстыя з вялікімі пучкамі. Лісьця скурыстыя, вялікія, зялёныя, круглай формы. Цьвяточныя пучкі вялікія і ў значным ліку.

Плады бываюць ня кожны год, а праз год і вельмі шмат, неўраджайлівых гадоў ня бывае.

Дрэва ў мяне пасаджана на пяску і аднолькава расьце, як у прыкрытым месцы з паўначнае старонкі другімі дрэвамі, так і на адкрытым месцы.

Ігруша Міністр Люцiўс—сорт позна-асеньні ці раньня—зімні, мае вялікае гандлёвае значэньне. Продаж ігрушы заўсёды і ўсюды забясьпечан.

(Капаткевічы, Мазыршчына).

А. Сыцько.

# Даходнасьць ягад.

Шмат ёсьць такіх людзей, якія на ягады глядзяць, як на ласунства, між тым яны надзвычайна карысны і неабходны для чалавека. Апрача гэтага, ад ягад можна мець вялікі даход. Суніцы і клубніцы на дзесяціне можна зьмясьціць да 43.200 кустоў. Пры правільным доглядзе з дзес. палучаецца ягад каля 8.000 кілёграмаў, а прадаць іх можна па 10 кап. за фунт (400 гр.).

Маліна таксама выгадна, як і суніца. Яе зьмяшчаецца на дзесяціну 7.200 кустоў. Пры добрым доглядзе можна палучыць ад 1½ да 2 кгр. ягад з куста, а з дзесяціны каля 8.640 кгр.

Парэчак на дзесяціне зьмяшчаецца 3.600 кустоў. З кожнага куста палучым 2½ кгр., з дзес. 7.200 кілёгр. Цана ад 8 да 18 кап. за 400 гр.

Агрэст (крыжоўнік) разьмяшчаюць у садзе, як і парэчкі. Што-ж датычыцца да ўраджаю, то магчыма палучыць у сярэднім па 4 кілёгр. з куста. Цана агрэста 10 кап. фун.

З гэтага мы бачым, наскольні карысна разводзіць ягады. Асабліва на гэта трэба зьвярнуць увагу тым сялянам, якія непадалёку ад вялікіх гарадоў (Менск, Віцебск і інш.). Вясковаму настаўніку таксама можна заняцца разьвядзеньнем ягады, бо яны прыносяць яму ня мала карысьці.

Ягады можна есьці ня толькі сырымі, але іх можна і сушыць, рабіць з іх мармаляду і г. д. Калі пры школе будуць развадзіцца розныя ягады, дык гэта будзе добры прыклад для ўсяго насельніцтва.

Жыхары каля гарадоў і вясковыя настаўнікі, зьвярнеце сваю увагу на разьвядзеньне ягадных кустоў.

Практычныя веды ў гэтым кірунку можна палучыць ад кожнага агранома і бліжэйшай вопытнай станцыі.

А. Куранкоў.

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Удзел хаты-чытальні ў сельска-гаспадарчай працы.

Зьезд ізбачоў БССР, які адбыўся ў сакавіку месяцы гэтага году, зьвярнуў належную увагу на прапрацоўку пытаняя „Сельска-гаспадарчая праца хаты-чытальні“.

Якім-жа чынам павінна ісьці гэтая праца?

Агра-прапаганда у вёсцы канцэнтруецца навакол нардому і хаты-чытальні шляхам арганізацыі сельскіх канфэрэнцый, выставак, лекцый гутарак і г. д. пры гэтым на практычны бок у гэтай галіне працы зварочваецца больш за ўсё увагі.

Аднак неабходна, каб усе мерапрыемствы агра-тэхнічнага характару па паляпшэньню сельскае гаспадаркі, як вопытна-паказальныя, вучасткі, земляўпарадкаваньне, пераход на шматпольле дапасаваньне і распаўсюджваньне машын і г. д. ажыцьцяўляліся пад непасрэдным кіраўніцтвам земорганаў і аграпэрсаналу. У сельска-гасподарчай працы нардому і хаты-чытальні асноўным напрамкам зьяўляецца калектывізацыя сельскае-гаспадаркі і павялічэньне яе таварнасьці. Зямельныя аграпрацоўнікі даб'юцца куды лепшых вынікаў, калі ўсю сваю працу будуць праводзіць праз нардом і хату-чытальню.

Навокал хаты-чытальні заусёды групуецца сялянскі актыў і вясковая інтэлігенцыя.

У сучасны момант у кожнай вёсцы маецца ўжо нямала сялян перадавікоў.

Селянін актывыст і вясковы інтэлігент праз хату-чытальню павінен павесьці масавую працу па зьнішчэньню агранамічнай няпісьменнасьці сярод самых шырокіх колаў сялянства.

Пры правядзеньні агра-прапаганды павінен прымацца пад увагу палітычны бок гэтага пытаньня: праца хаты-чытальні павінна спрыяць разьвіцьцю не адзіна-асабістай гаспадаркі, а агульна-каапэрацыйнай.

Масавая аграпрапаганда нардому і хаты-чыталнні накіроўваецца ў чатырох напрамках: вусняя аграпрапаганда, аграпрапаганда праз друк, паказальная аграпропаганда і аграпрапаганда праз арганізацыю самадзейнасьці насельніцтва (гурткі).

Для шырокіх мас сялянства найбольш даступнымі формамі, аграпропаганды ў працы хаты-чытальні зьяўляюцца гутаркі, экскурсіі, агра-спэктаклі, арганізацыя сельска-гаспадарчых куткоў і г. д.

Больш глыбокай формай аграпрапаганды зьяўляецца сельска-гаспадарчы гурток; іх маецца на Беларус 501, у якіх 9333 сябры.

На стварэньне пры хатах-чытальнях сельска-гьспадарчых гурткоў і на іх правільнае кіраўніцтва патрэбна зьвярнуць належную увагу; у гуртках на аснове самадзейнасьці самого сялянства, выпрацоўваюцца шляхі і мэтады перабудовы і палепшаньня сельскай гаспадаркі.

У гэтым годзе Наркомасьветай БССР распрацованы праграмы для сельска-гаспадарчых гурткоў паніжанага тыпу, зараз распрацоўваюцца праграмы для сельска-гаспадарчых гурткоў павышанага тыпу. Да гэтага часу ў нас назіралася такое ненармальнае зьявішча, што па аднолькавым праграмам на працягу некалькіх гадоў працуюць гурткі, у якіх не заўсёды новы склад; перапрацоўка аднаго і таго-ж матар'ялу некалькі год падрад становіцца не цікавай, і шмат гурткоў перастае працаваць.

З новага навучальнага году гэтае зьявішча трэба зьнішчыць. Далей, мы высоўваем другое пытаньне: скончыўшыя сельска-гаспадарчы гурток сяляне павінны атрымаць пасьведчаньні, у якіх трэба адзначыць ступень (паніжаная, павышаная) гуртка. Калі гаспадар прапрацуе на працягу двух год у гуртках паніжанага і павышанага тыпу, то мы можам лічыць, што ён значна палепшыць сваю гаспадарку і падрыхтаваны для вядзеньня яе на новых началах.

Выдача пасьведчаньняў аб працы ў гуртку, разаўе большую зацікаўленасьць з боку сялянства.

Вось асноўныя моманты ў працы нардому і хаты-чытальні ў сельска-гаспадарчай галіне.

**Сініцкі, Капаевіч.**

---

# Што павінны рабіць с.-г. гурткі ўлетку.

Праца сельска-гаспадарчых гуртоў улетку павінна насіць пераважна практычны характар. Усе тыя пытаньні, якія тэорэтычна былі распрацованы зімовай парою, улетку павінны мець практычнае ўжываньне ў садзе, полі і гародзе.

Вось чаму сувязь летняе практычнае працы сяброў сельска-гаспадарчых гурткоў з іх зімовымі працамі, павінна быць поўная. Звычайна зімою сябры гуртку намячаюць сабе пытаньні, якія летам і вырашаюць практычна.

У якіх-жа галінах сельскае гаспадаркі і на якія тэмы сябры с.-г. гурткоў могуць практычна праводзіць сваю працу?

З прычыны рознастайнасьці умоў гаспадараньня ў розных раёнах пералічыць тут усе галіны гэтае працы не магчыма, але, як прыклад, можна ўзяць наступныя пытаньні з розных галін сельскае гаспадаркі.

Па паляводству: 1) адбор лепшага (сэлекцыя) аўса, ячменю і жыта, 2) пасеў караньплодаў, 3) зьбіраньне колекцыі палявых культурных расьлін, палявых сарнякоў, 4) зьбіраньне палявых шкоднікаў і пашкоджаных імі расьлін.

Па садоўніцтву: 1) закладка невялікай школкі і праца ў ёй, прышчэпка дзічкоў; 2) дагляд за пладовымі дрэвамі ў садзе, акопваньне, угнаеньне, апрыскваньне для барацьбы са шкоднікамі, 3) складаньне колекцый шкоднікаў сада і г. д.

Па жывёлагадоўлі: 1) гадоўля цялят, 2) правільны дагляд курэй і нагляданьне за носкасьцю і 3) правільны дагляд за малочнай каро-

вай, кармленьне, паеньне, чыстка, сваечасовае даеньне, запісваньне ўдояў і г. д., 4) правільнае дагляданьне і ўтрыманьне аднаго-двух парасят.

Па каапэрацыі: арганізацыя ільнаводных, садова-гародных, насенных, мэліорацыйных, торфяных і інш. таварыстваў.

Як-жа практычна правесьці тую ці іншую тэму ў жыцьцё?

Ніякага агульнага правіла прапанаваць тут ня можна, бо амаль што кожная с-г. тэма на практыцы можа мець свае асаблівасьці. Возьмем, напрыклад, пытаньне ўзрашчваньня і адбора пшаніцы.

На працягу ўсяго вэгэтацыйнага пэрыяду павінны весьціся назіраньні за ростам і разьвіцьцём пшаніцы.

З палучанага ўраджаю яшчэ на корані трэба лепшыя каласы пшаніцы адабраць, абмалаціць і насеньне захаваць да наступнага засеву. Вясной перад пасевам, а можа і ў зімовую пару, насеньне гэта зноў сартуецца, зноў адбіраецца буйное і здаровае насеньне і высяваецца.

Дзякуючы такой працы, праз некалькі год можна будзе паступова вывясьці ў сваёй гаспадарцы найбольш трывалы ва умовах данай мясцовасьці сорт пшаніцы і з найбольшым ўраджаем.

Такім жа спосабам павінны распрацоўвацца і іншыя тэмы па збору насеньня розных расьлін. Неабходна толькі ўсю гэту працу праводзіць у цеснай сувязі з аграномам і пад яго кіраваньнем.

Але гэтымі практычнымі працамі на розныя с.-г. тэмы, справа неканчаецца; сябры с.-г. гуртка могуць і павінны праводзіць таксама і вялікую працу ў галіне арганізацыі розных каапэрацыйных аб'яднарьняў: ільнаводных, тарфяных, жывёлаводных і інш., а таксама прымаць удзел у прапагандзе сярод насельніцтва тых агранамічных ідэй, якія, напэўна, могуць быць карыснымі сялянскай гаспадарцы, як, напрыклад, асушка балота, зьністажэняне куп'я і кустарнікаў на лугох, увядзеньне раньняй заворкі папару і г. д.

Акрамя практычнае працы сябры с-г. гурткоў у летні час павінны займацца таксама тэорэтычнчй распрацоўкай пытаньняў і папаўняць свае веды шляхам самадзейнасьці сяброў гуртка.

Праца гэта складаецца з таго, што сябры с-г. гурткоў зьбіраюцца на агульныя сходы, вядуць гутаркі на розныя с-г. тэмы і робяць паведамленьні аб сваіх нагляданьнях і выніках, чытаюць с-г. літаратуру, апрача таго, некаторыя больш разьвітыя сябры гуртка могуць рабіць даклады на розныя с-г. тэмы, як напрыклад, карысьць шматпольнага севазвароту параўнальна з трохпалёўкай, спосабы барацьбы з сарнякамі і г. д. Даклады гэтыя складаюцца сябрамі гуртка, пад нагляданьнем аграномаў ці асоб знаёмых з сельскай гаспадаркай і якія могуць, калі будзе патрэба, дапамагчы сваімі ведамі і парадамі. Гэтыя даклады абвяшчаюцца на агульных сходах сяброў с.-г. гурткоў і ўсебакова абгаворваюцца сябрамі.

Вось тая праца, якая павінна праводзіцца сельска-гаспадарчымі гурткамі ўлетку.

Агр. **П. Гавака**

# Аб адмове ад права на зямлю.

У арт. 18 Зямельнага Кодэксу гаворыцца, што дабравольная адмова ад права на зямлю робіцца са згоды ўсіх паўнапраўных членаў двара праз заяву на імя мясцовага зямельнага органа, а членамі колектыва на імя свайго аб'яднаньня.

Гэты артыкул Зямельнага Кодэксу ў земляўпарадкаўчай практыцы выклікае неяснасьць. Земляўпарадчыкі пры разьмеркаваньні зямельнага запасу, прыстасоўваючыся да вымаганьняў арт. 18 Зямельнага Кодэксу, бяруць ад гаспадароў малазямельных двароў, а то і ад усіх членау двара, якія выходзяць з розных вёсак на пасёлкі ці хутары, падпіску ў тым, што яны здмаўляюцца ад карыстаньня землямі, якія знаходзіліся ў іх карыстаньні да выдзелу на зямельны запас.

Паўстае пытаньне, на колькі ёсьць патрэба ў гэтым, тым болей, што працадура гэта досыць дакучная і ў земляўпарадчыка аднімае лішні час і заграмаджае справу лішнімі паперамі. Зьвернемся да самага працэсу гэтае працы. Разьмеркаваньне зямельнага запасу праводзіцца ў парадку земляўпарадкаваньня; пры гэтым кожны двор, увайшоўшы ў складаемае аб'яднаньне, атрымлівае належную яму зямлю гаспадарча-упарадкаваную са зьнішчэньнем празпалосіцы, далёказямельля і інш. недахопаў землякарыстаньня.

Усякі малазямельны двор, які даў згоду быць надзеленым на зямельным запасе і ўвайсьці ў складаемыя на ім пасёлкі, хутары, зьяўляецца ўдзельнікам земляўпарадкаваньня і прымае ўдзел ва ўсіх земляўпарадкуючых дзеяньнях (арт. 155 Зямельнага Кодэксу) праз свайго прадстаўніка (арт. 66 Зямельнага Кодэксу).

Пры ўнутрыселішчным земляўпарадкаваньні ад кожнага двара-удзельніка земляўпарадкаваньня падпіска аб адмове ад карыстаньня празпалоснымі дзялянкамі, якія былі ў яго да земляўпарадкаваньня, не бярэцца.

Такім чынам, ніякіх новых прычын няма, каб пры выдзяленьні ў парадку земляўпарадкаваньня малазямельных гр-н з вёскі на зямельны запас ад членаў выдзяляючагася двара (згодна арт. 18 Зямельнага Кодэксу) браць падпіску аб адмове ад карыстаньня быўшымі да гэтага ў іх землямі.

Выдзяляючыяся двары у такім выпадку (арт. 153 Зямельнага Кодэксу) атрымліваюць зямлю ў новым сельска-гаспадарчым аб'яднаньні ў колькасьці значна большай, дазваляючай самастойнае выдзяленьне гаспадаркі.

У апошнім выпадку (згодна 18 Зямельнэга Кодэксу) няма адмовы ад права на зямлю. Тут, як і ў першым выпадку, робіцца перамяшчэньне месца карыстаньня двара, перабудаваньне зямельнай тэрыторыі ў мэтах складаньня жыцьцёвых землякарыстаньняў.

На гэты погляд стала Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю па спрэчных зямельных справах пры Наркамземе Беларусі, разглядаючы справу па іску гр-кі в. Віркава Бабруйскай акругі Натальлі Кавалёвай аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня (справа № 217—1926 г.), якая паказала на неправільнае (супроць 18 арт. Зямельнага Кодэксу) адняцьце ад яе зямлі, што была ў карыстаньні двара, да якога яна належыла і які вышаў з вёскі на пасёлак арганізаваны ў парадку земляўпарадкаваньня на зямельным запасе. Гаспадар гэтага двара своечасова даў згоду на выхад і нават падпіску аб адмове ад быўшай

у карыстаньні двара зямлі ў вёсцы; АКЗК пратэнзіі яе знайшла нягрунтоўнымі і скаргу яе на пастановы зямельных камісій, якія адмовілі ёй у іску, пакінула бяз вынікаў.

Такім чынам, павінна аставацца бясспрэчным тое, што вымаганьне арт. 18 Зямельнага Кодэксу ў выпадках пераходу двара з вёскі на пасёлак, хутар не падыходзіць пры земляўпарадкаваньні зямельнага запасу і ад малазямельных двароў, якія надзяляюцца з яго дзеля самастойнага вядзеньня гаспадаркі, адмовы сяброў двара ад карыстаньня быўшымі ў іх да таго землямі не патрэбна.

**Кварын.**

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 81. Ці можна адабраць сядзібу ад асобы, якая мае некалькі сядзібных кавалкаў (Калінінская Райземкамісія).

Адказ. Сядзібай лічыцца месца пад будынкамі, двор, гарод, канаплянік, сад, гуменьнік і пчэльнік. Сядзіба можа складацца з некалькіх кавалкаў, не прылягаючых непасрэдна да паласы, занятай будынкамі. Гранічныя нормы для існуючых сядзібных вучасткаў законам ня вызначаны. Дзеля гэтага абкройцы яны не падлягаюць на грунце увагі да арт. 16 інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства з 15 красавіка 1925 г. аб парадку разьмеркаваньня запаснага фонду.

Пытаньне 82. Ці маюць паасобныя гаспадаркі права на продаж будынкаў на месцы з перадачай у карыстаньне пакупніка і сядзібнага вучастку, на якім знаходзіцца прадаваемы будынак.

Адказ. Працоўны землякарыстацель мае права без усякай рэгістрацыі умовы прадаваць належачыя да яго будынкі на знос. Продаж уласьнікам яго будынкаў, якія непасрэдна зьвязаны з сельскай гаспадаркай і знаходзяцца на зямлі працоўнага карыстаньня, не на знос, а дзеля карыстаньня на месцы, дазваляецца толькі на карысьць асоб, якіх зямельныя установы надзеляць сядзібнымі вучасткамі, дзе гэтыя будынкі знаходзяцца. Умовы аб прадажы будынкаў падлягаюць у гэтым разе рэгістрацыі райвыканкому. Продаж будынкаў з пакіданьнем іх на месцы асобам, не атрымаўшым у вызначаным парадку права карыстацца сядзібай пад будынкамі, дае вынікі, прадугледжаныя 26 арт. Зям. Код.

Пытаньне 83. Пры выкананьні земляўпарадчых праэктаў здараецца, што невялікія кавалкі лесу, якія па сваей плошчы ня лічацца ў складзе лясоў мясцовага значэньня, пераходзяць ад аднаго землякарыстацеля да другога. Папярэдні землякарыстацель хоча гэты лес вырубіць, а новы лічыць выгаднейшым зьберагчы. Хто з іх мае права на гэты лес, калі ў земляўпарадчым праэкце нічога аб гэтым не азначана. (Аршанская акрземкамісія).

Адказ. З моманту пераходу да земзякарыстаньня ў новых межах усе двары атрымліваюць разам з правам працоўнага карыстаньня на зямлю і права ўласнасьці на ўсё зьвязанае з паверхняй зямлі—будыніны, будынкі, расьліны і пасевы, калі ў земляўпарадчым праэкце не абмоўлены ў гэтых адносінах якія-небудзь выключэньні, напрыклад, права папярэдняга землякарыстацеля на зьнясеньне ў вызначаны тэрмін будынкаў, на зьняцьце пасеваў, на вырубку дрэў і інш. Калі

землякарыстацелем зроблены былі мэліорацыі, напрыклад, пасаджан лес у мэтах замацаваньня пяскоў і рвоў, дык пры пераходзе ў выніку земляўпарадкаваньня мэліораванага вучастку да новага землякарыстацеля папярэдні мае права на атрыманьне з новага землякарыстацеля сплаты за нескарыстаныя выдаткі. Аб разьмеры і парадку сплат адзначаецца ў земляўпарадчым праэкце, спрэчкі-ж, якія ўзьнікаюць пры гэтым, вырашаюцца зямельнымі камісіямі. У мэтах захаваньня дрэў, рубку іх трэба забараняць прыгаварам вобчаства з моманту прад'яўленьня земляўпарадчага праэкту да выкананьня яго ў натуры.

Пытаньне 84. Ці можа зямельная камісія па хадайніцтву ісца прадоўжыць тэрмін выкананьня рашэньня, ня выкананага па віне службовых асоб у працягу трох гадоў з дню набыцьця ім законнай сілы, а калі ня можа, дык ці дапусьцім паўторны разгляд зямельнымі камісіямі па сутнасьці спрэчкі старон (Барысаўская Райземкамісія).

Адказ. Зямельная камісія ня можа прадоўжыць тэрмін выкананьня рашэньня, страціўшага сваю моц за сканчэньнем трохгадовай даўнасьці. Пры гэтым па правох, для якіх у выключэньне ад агульнага трохгадовага даўнаснага тэрміну існуе больш доўгі спэцыяльны тэрмін даўнасьці,ісьцец да сканчэньян гэтага спэцыяльнага тэрміну можа па прычыне страты рашэньнем сваей моцы прад'явіць новы іск па сутнасьці тэй-жа спрэчкі.

Пытаньне 85. Ці можна выдзеліць ісцу належачую да яго долю маемасьці, а зямлю пакінуць у сумесным карыстаньні старон у разе прад'яўленьня іску аб выдзеле зямельна-маемаснай долі з непадзельнай гаспадаркі.

Адказ. Калі гаспадарка ня мае максымальнай нормы зямлі і зьяўляецца дзеля гэтага непадзельнай, дык і іншая маемасьць агульнага карыстаньня: будынкі, інвэнтар і г. д. не падлягаюць падзелу ў натуры. Значыць, член двара можа выйсьці з такой гаспадаркі толькі ў парадку 84 арт. Зям. Код.

Пытаньне 86. Ці дапусьціма пакіданьне зямлі ў сумесным карыстаньні старон у разе прысуджэньня ісцу сплат на грунце 84 арт. Зям. Кодексу.

Адказ. Пакіданьне зямлі ў сумесным карыстаньні старон не дапусьціма, бо выходзячы з гаспадаркі член яе ў парадку 84 арт. Зям. Код. перастае быць членам гэтага двара, дзеля чаго згодна 65 арт. Зям. Код. ён ня мае права на сумеснае карыстаньне зямлёю з астаўшыміся членамі двара.

Пытаньне 87. Калі іск прад'яўлен аб выдзеле з непадзельнае гаспадаркі зямельна-маемаснай долі, дык ці можа зямельная камісія, адмовіўшы ў іску аб выдзеле зямлі і маемасьці, адразу-ж без хадайніцтва аб тым ісца прысудзіць яму сплату за належную частку маемасьці і адмовіць у выдзеле зямлі, ці ў гэтым разе трэба адмаўляць у іску аб выдзеле, прапанаваўшы ісцу пачаць новую справу ў парадку 84 арт. Зям. Код.

Адказ. У парадку 84 арт. Зям. Код. магчым толькі самаахвотны выхад з непадзельнае гаспадаркі члена яе. Зямельныя камісіі могуць толькі вызначаць разьмер сплат на карысьць члена гаспадаркі, які выходзіць з яе складу, а таксама даваць растэрміноўку іх. Значыць, зямельныя камісіі ня маюць права без хадайніцтва аб гэтым ісца пазбавіць яго праў членства ў двары, прысудзіўшы толькі сплату за маемасьць у парадку 84 арт. Зям. Код. Зямельная камісія пры разглядзе справы аб падзеле, вызначыўшы факт непадзельнасьці гаспадаркі, па-

вінна высьветліць, ці хоча ісьцец выйсьці з гаспадаркі ў парадку 84 арт. Зям. Код. Калі істец згаджаецца на гэта, зямельная камісія разглядае справу ў парадку вызначанага артыкулу. У адваротным разе належыць па прычыне непадзельнасьці гаспадаркі абмежавацца толькі адмовай у іску аб яе падзеле.

## Гаспадарка Рыгора Андросіка.

*(Блужскі с.-с. Пухавіцкі р., Менскай акр.).*

Гаспадарка ня зусім культурная, але яна паказвае, як можна лепш працаваць на полі. Рыгор Андросік мае 39 год; пасьля бацькі (28 г.) адразу пачаў перабудоўваць сваю гаспадарку, бо бацька трымаўся старых звычаяў гаспадараньня. Рыгор Андросік зараз-жа пачаў перастаўляць будынкі і будаваць новыя. Зараз мае хату з 5 сьцен, крыта яна гонтамі; мае добры хлеў (27×9 арш.) з вокнамі, крыты саломаю; мае сьвіран, варыўню, паветку для дроў і с.-г. машын, гумно (33×9 арш.), сенавал і лазьню (баню).

У Рыгора Андросіка пахатной зямлі 7 дзес., сенажаці 4 дзес. і няўдобнай 4½ дзес. Мае 5 душ сям'і (3 працаздольных). У сваёй гаспадарцы рабочых рук не наймаў. У 1924 г. Р. Андросік сам перайшоў на сяміпольны севазварот. Кіраўніцтва і дапамогі ад аграномаў ня бачыў. Далей пачаў угнойваць поле, кладучы на 1 дзес. 80 вазоў гною, пачаў сеяць лубін, тамасаўку; у 1926 г. падсеяў у жыта сэрадэлю, хаця яна ад сушы і прапала.

Севазварот мае такое чаргаваньне расьлін:

1. Жыта
2. Бульба
3. Ярына + канюшына
4. Канюшына 1 году
5. Канюшына 2 году
6. Лён
7. Чорны папар

Ураджай у 1926 г. у сярэднім быў такі: жыта з дзес. 80-90 пуд., бульба—900-1000 пуд., канюшына (сена) 250 пуд., выка 250 пуд.

У 1926 г. жыта было пасеяна радковым сяўнікам, а насеньне адменена ў саўхозе „Молот“.

З жывёлы Рыгор Андросік мае 1 каня мясцовай палепшанай пароды, 2 дойныя каровы. Каровы даглядаюцца 3 разы ў суткі: даецца паранка (сечка з атрубямі); дойным каровам даецца па 15 фунтаў бульбы, а маладняку салома з сенам. Вечарам жывёле даецца нанач салома з сенам (па 10 фунт. саломы і 10 фунт. сена). Поіцца скаціна ў хляве два разы.

Гаспадарку Р. Андросіка можна было-б павесьці больш культурна, але недахоп агранамічных ведаў і сродкаў, не дазваляе павесьці больш шырока культурную працу. Напрыклад, у Р. Адросіка ёсьць сад, які пачаў гінуць. Некалькі разоў прасіў ён агранамічнай дапамогі, але аграномы яшчэ не наведаліся да яго.

Аграномы, ідзіце на дапамогу культурным гаспадаркам.

**І. Вярковіч.**

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

## Паштовая скрынка

Сел. **Тодару Махначу**. 1. Калі ласка, адкажыце колькі трэба лістоў бляхі на пакрыцьце хаты „Б“ (Мал. 6 у час. „Плуг“ № 4 1927 г.).

**Адказ**. На пакрыцьце хаты „Б“ (Мал. № 6 „Плуг“ № 4 1927 г.) патрэбна 98 лістоў бляхі.

2. Як трэба класьці падрубы, на дошку, што кладзецца на толь.

**Адказ**. Па падмурку кладзецца толь, зьверх толю 1-вяршковая дошка, а падруба кладзецца на дошку (дошка з толю ня здымаецца).

3. Ці павінна адпусьціць раённая лясная камісія лесаматар'ялу на пабудову памянёнай хаты і хлева, калі я абязаўся за 5 год пабудаваць гэты будынак.

Лесаматар'ял адпускаецца на агульных умовах.

4. Як захаваць дрэва да пабудовы—чэсанае ці не.

**Адказ**. Дрэва да пабудовы трэба акарыць, а поўную абдзелку бярвеньняў рабіць у час будаваньня хаты.

**Г. Шасьцітку**. Ваш штодзеньнік атрымалі. „Плуг“ № 6 у Ялту выслалі.

**П. Лібаху** (Балта). Дробныя парады прысылайце таксама.

